PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 50 (2013) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 11 СНЕЖНЯ 1994 г. ЦАНА 4000 зл.

*Мікола Ваўранюк*

## НЕ ЛІЧУ СЯБЕ КАМІКАДЗЭ

**Размова са старшынёй Беларускага саюза ў Польшчы — Яўгенам Вапам.**

*— Яўген, віншую з выбарам. Аднак скажу шчыра — не зайздрошчу. Наша фармацыя пачынала дзейнасць на шырэйшым форуме ў 1989 годзе, на хвалі вялікага энтузіязму. Меншала яго пасля чарговых прайграных выбараў. Цяперашні палітычны лад у краіне здаецца быць даволі стабільным, а гэта не падае надзеі, што застой у нашых арганізацыях хутка скончыцца.*

— У палітыцы ніколі няма так, каб было сказана апошняе слова. Нават самым стабільным, здавалася б, структурам прыходзіць канец. А з другога боку, пэўныя ідэі і іх носьбіты раптам атрымліваюць свае пяць хвілін у гістарычнай прасторы. Сэнс нашай дзейнасці таксама ў тым, каб такога шанцу — калі будзе дадзены — не праспаць.

На зломе 80-х гадоў мы шчыра верылі ў станоўчы ўплыў дэмакратычных працэсаў на актыўнасць грамадства. Больш-менш да 1993 года зразумелі мы, што існуюць істотныя разыходжанні між ідэямі і практыкай. Прапанаваныя намі ў той перыяд канцэпцыі не атрымалі адабрэння шырэйшых кругоў грамадства. Гэта быў першы балючы ўрок. А другі — такі: палітычная актыўнасць беларускай нацыянальнай меншасці ніколі не сустрэнецца з прыхільнасцю дзяржаўных уладаў. У такой сітуацыі фрустрацыя зусім зразумелая.



**Яўген Вапа — настаўнік гісторыі ў Гайнаўскім беларускім ліцэі. У 1989 і 1990 г.г. быў старшынёй Беларускага аб'яднання студэнтаў. Адзін з заснавальнікаў Беларускага клуба — месца нараджэння беларускай палітычнай думкі ў Польшчы ў канцы 80-х гадоў.**

Аднак я, рашаючыся стаць старшынёй Беларускага саюза, не адчуваю сябе камікадзэ. Веру, што нат з самага неспрыяльнага становішча ёсць выхады. Не разлічваю таксама на нейкі цуд, а толькі на нашы ўласныя сілы.

*— Беларускі саюз з'яўляецца формай федэрацыі розных арганізацыйных структур, дзейсных у нашым грамадстве...*

— ... між якімі няма каардынацыі. Для мяне яснае, што пачынаць трэба з навядзення парадку на нашым панадворку. Пры такой колькасці арганізацый, якія ўваходзяць у Беларускі саюз — Беларускае аб'яднанне студэнтаў, Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне, Звяз беларускай моладзі, Літаратурнае аб'яднанне „Белавежа", Асацыяцыя беларускіх журналістаў, Беларускае гістарычнае таварыства і Праграмная рада „Нівы" — каардынацыя дзейнасці вельмі важная. Таму заклікаю старшыняў паасобных арганізацый да цеснага супрацоўніцтва. Без гэтага не толькі маё старшынства, але і ўся структура Беларускага саюза не будуць мець сэнсу. А я лічу, што Беларускі саюз патрэбны дзеля эфектыўнага адстойвання нашых нацыянальных інтарэсаў.

Толькі каб нешта бараніць ці за штосьці змагацца, трэба ведаць з чаго пачынаць. Трэба проста

*Працяг на стар. 4*

*Ада Чачуга*

## Песня застаецца ў сэрцы

Ёсць на Беласточчыне пару калектываў, якія сталіся ўжо легендай. Маю тут на думцы перш за ўсё гарадоцкі харавы калектыў з яго саракагадовымі традыцыямі і калектыў „Васілёчкі" з Бельска-Падляшскага, які 12 лістапада 1994 года адсвяткаваў сваё трыццацігоддзе.

Калектыў не быў бы калектывам, калі б не перажываў перыядаў узлётаў і крызісаў. Свайго апагею „Васілёчкі" дасягнулі ў 1989 годзе. Разрасліся да сарака чалавек. Сяргей Лукашук, тадышні кіраўнік і дырыжор хору, увёў у праграму танцавальныя элементы, стварыў інструментальную групу з народнымі інструментамі. Расцвіў калектыў.

К гэтаму часу ўжо было наладжана рэгулярнае супрацоўніцтва з Беларуссю, асабліва з яе заходнімі раёнамі. Выступалі ў Менску, Смаргоні, Паставах, Ашмянах. Менскай тэлестудыяй быў запісаны на істужку іх саракамінутны канцэрт.

У Польшчы таксама „Васілёчкі" не завужалі сваёй дзейнасці тэрыторыяй Бельшчыны ці Беласточчыны. Ездзілі на турнэ і ў Быдгаскае ваяводства, і ў Пазнанскае, і ў Плоцкае, і ў Варшаве былі, і ў Сопаце спявалі.

Крызіс прыйшоў нечакана, неўзабаве пасля таго, як гучна адсвяткавалі дваццаць пятую гадавіну калектыву — са шматлікімі ўзнагародамі і госцьмі, прыбыўшымі не толькі з Беласточчыны, але і з Беларусі, а нават і з-за акіяна. Так, так, на той урачыстасці выступаў і цудоўны мужчынскі калектыў „Лявоны" з Воранава, што каля Ліды, ды — у першую сваю пабыўку на нашай зямлі — маладзёжная танцавальная група „Васілёк" з Нью-Йорка. Незабыўнае было гэта свята!

Цяжка сказаць сёння, чаму ў калектыве пачаўся крызіс. Ад чаго паявілася знеахвочанне, калі новыя часы неслі аднаўленне... Менш харыстаў стала прыходзіць на рэпетыцыі, бралі верх узаемныя прэтэнзіі, нязладжанасць. Трэба было мяняць стыль працы. Адыходзіць Сяргей Лукашук, які дваццаць гадоў працаваў з „Васілёчкамі", і стварае новы калектыў „Маланка". Што будзе з „Васілёчкамі"? Можа, іх час ужо мінуў...

Але ж не! За справу бярэцца маладзенькая выкладчыца Бельскай музычнай школы Аліна Негярэвіч. Ёй менавіта даручаюць кіраванне хорам „Васілёчкі", у якім яна спявала дагэтуль. І „Васілёчкі" зноў ажываюць!

Сёння ў калектыве дваццаць шэсць асоб. Працуе ён, як і раней, пры Бельскім доме культуры, дырэктарам якога з'яўляецца Сяргей Лукашук. І ўсе тут святкуюць сёння разам. Сяргей Лукашук разам з Валянцінай Ласкевіч вядуць канцэрт, а праўду кажучы, гістарычна-музычны мантаж, з якога глядач даведваецца, якія былі пачаткі хору і як ён сталеў. Перад сабранай публікай, як у калейдаскопе, змяняюцца людзі: тыя, што былі пачынальнікамі, і тыя, што прадаўжалі іх дзейнасць. Расказваюць пра хор, пра свой удзел у працы.

Янка Шурбак, штатны працаўнік Аддзела БГКТ у Бельску, і Уладзімір Раеўскі, старшыня гэтага ж Аддзела, трыццаць гадоў таму назад вырашылі стварыць у Бельску спявачы калектыў. Хадзілі па хатах, вербавалі спяваючых людзей, запрашалі ў хор нават выпадкова сустрэтых на вуліцы. Першымі адгукнуліся сям'я Талвінскіх з трыма дочкамі, ды муж і жонка Вашчукі. А пасля ўжо да калектыву далучаліся ўсё новыя людзі, і на працягу гэтых гадоў праз калектыў прайшлі сотні чалавек. Ад 1974 года пачаў ён называцца „Васілёчкі".

Першым дырыжорам у 1964 годзе стаў Аляксандр Лукашук, кароткі час пасля яго быў Сцяпан Копа, пасля — па чарзе — Юрка Шурбак і Міхась Артышэвіч, а ў 1970 годзе кіраўніком хору і яго дырыжорам стаў Сяргей Лукашук, які дагэтуль быў у калектыве акампаніятарам, і... застаўся з калектывам наступных дваццаць гадоў.

Якраз на гэтыя гады прыпадае росквіт калектыву, яго станаўленне і слава ў краіне і на Беларусі. „Васілёчкі" выспелі ў каласах беларускай песні, у пахах роднай зямлі, у здаровым народным гумары. Сталіся неадлучным элементам культурнага жыцця Беласточчыны. „Не было ў нас ніводнага большага свята, у якім бы яны не прымалі ўдзелу", — гаворыць Валянціна Ласкевіч, сакратар Галоўнага праўлення Беларускага таварыства. Яна таксама калісьці спявала з „Васілёчкамі" і тыя песні засталіся ў яе сэрцы. І хаця самадзейнікі мерзлі калісьці ў часе рэпетыцый у халоднай зале ратушы, „песня нас разагравала", — сцвярджае колішні дырыжор Міхась Артышэвіч.

Сыплюцца віншаванні хору. Ад парламентарыяў СЛД Анатоль Вакулюк зачытвае ліст, падпісаны Уладзімежам Цімашэвічам, Марыя Шышка — ліст ад Беластоцкага ваяводы Анджэя Гаеўскага, Барбара Пахольская — ад дырэктара Ваяводскага асяродка анімацыі культуры Казімежа Дэркоўскага і т.д. і г.д., а Аліна Негярэвіч не можа змясціць у руках усіх кветак.



*Аліна Негярэвіч ужо пяць гадоў кіруе калектывам "Васілёчкі".*

*Працяг на стар. 8*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Przez cały powojenny okres Państwo Polskie łożyło znaczne kwoty na ochronę (białoruskich — red.) zabytków sakralnych, w tym samym czasie, gdy na sąsiedniej Białorusi zabytki polskie były bezwzględnie niszczone. Trudno wyliczyć wszystkie zabytki uratowane przez Państwo Polskie, lecz dla porządku wymienić należy chociażby freski z unickiego klasztoru w Supraślu, całkowitą konserwację wystroju cerkwi w Czyżach (spłonęła tuż po konserwacji w niewyjaśnionych okolicznościach — red.). Zabytki kultury materialnej ludności białoruskiej były gromadzone od końca lat pięćdziesiątych przez Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne z myślą o stworzeniu Muzeum w Hajnówce. Na początku lat 70-tych wobec braku możliwości stworzenia takiego Muzeum większość kolekcji przejęło Muzeum Okręgowe. W oparciu o zbiory BTSK Muzeum Rolnictwa w Ciechanowcu w 1974 r. utworzyło w swym skansenie ekspozycję zagrody wschodniopodlaskiej, jako stałego elementu składowego prezentowanej tam tematyki mazowiecko-podlaskiej. Całość dziedzictwa kulturowego Białorusinów w Polsce traktowana jest z należytym szacunkiem, a Polakom na Białorusi należałoby jedynie życzyć podobnego traktowania naszego dziedzictwa kulturowego przez tamtejsze władze*, — піша віцэ-міністр культуры і мастацтва III Рэчы Паспалітай Міхал Ягела.

*(Magazyn Polski, nr 2, 1994 r.)*

Артыкул міністра, азагалоўлены: „Troska państwa polskiego o mniejszość białoruską”. „Magazyn Polski” з’яўляецца штоквартальнікам Саюза палякаў у Беларусі. Галоўны рэдактар часопіса — Эугэніюш Скрабоцкі. Сярод членаў рэдакцыйнай рады знаходзяцца: Чэсё Бяньскоўскі, Федзя Гавін, Ясь Леанчук, і вялікі сябра беларусаў і праваслаўных Іосіф Марошак з Беластока. Апошняя, цытаваная намі фраза з артыкула пана міністра гучыць як чорны гумар. Не можам здагадацца толькі, чаму так міністр не любіць беларускіх палякаў.

* * *

*Wkrótce Bank Gospodarki Żywnościowej otrzyma z budżetu 12 bln. zł. Oznacza to, że każdy podatnik zainwestuje w politykę Polskiego Stronnictwa Ludowego 800 tys zł.*

*(Wprost, nr 47)*

* * *

*W dziejach społeczeństw strach stanowił nieodłączny atrybut polityki, stosowany głównie jako skuteczny środek sprawowania władzy, tak świeckiej, jak i kościelnej. Niedoścignionymi mistrzami manipulowania strachem były systemy totalitarne. Strach stabilizował zarówno faszyzm, jak i komunizm. Likwidacja pluralizmu politycznego w imię jedynej własnej moralności, raz faszystowskiej, to znów komunistycznej, utorowało drogę sprawcom największych zbrodni XX stulecia. Technika skutecznego zastraszania stanowi m.in. odpowiedź na pytanie, dlaczego tak niewielu trzeba było uzbrojonych ludzi, by wymordować miliony.*

*(Polityka, nr 47)*

Свайго аўтара чакае тэма: „Фактар страху ў жыцці беларускага грамадства на Беласточчыне”.

* * *

*Tima sąméma dróżkąma*
*gdze tak dôwno szlësmë razëm*
*jesz dzys twoję mowę czëc*
*jidę z serca drogowskazëm*

*(Pomerania, nr 10)*

Гэта не ёсць мова ні славацкая, ні харвацкая, але польская, толькі што кашубская. Паэты пішуць на ёй вершы, дзеці вучацца яе ў школах. Кашубы гавораць: „trzeba znać swój język, to przecież język ojczysty” (Pomerania, nr 10). Шкада, што гэтая простая логіка не прыстае да беластоцкай рэчаіснасці.

* * *

*Policja krakowska aresztowała Anastazję P., autorkę skandalizującej relacji z sejmowych kuluarów.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 269)*

У свой час, дзякуючы Анастазіі П., грамадзяне Польшчы маглі нечага даведацца пра штодзённае жыццё паслоў. Арыштавалі дзеўку, замест даць ёй нейкую ўзнагароду за ахвярную працу ў карысць народа.

* * *

*Powoli sala mińskiej Szkoły nr 1 wypełnia się rodzicami, nauczycielami i gośćmi — pracownikami Ambasady RP. Dziś uroczyste przyrzeczenie będą składać pierwszoklasiści, co pobierają naukę w języku polskim. Suwerenna Białoruś zapewnia wszystkim mniejszościom narodowym prawo do kształcenia w języku ojczystym. Białoruscy nauczyciele wyjeżdzają do Polski pracować i wykładać język białoruski, polscy jadą na Białoruś. Jest to wszystko realizowane na zasadzie wzajemności.*

*(Głos znad Niemna, nr 42)*

Цешымся, што Рэспубліка Беларусь вядзе так цывілізаваную палітыку ў адносінах да сваіх нацыянальных меншасцяў. Усё вышэйсказанае было б праўдай апрача гэтага фрагмента, у якім гаворыцца пра беларускіх настаўнікаў, якія ў Польшчы навучаюць беларускай мове. Пакуль што ніхто іх тут не бачыў, таксама як школ, у якіх мелі б яны працаваць.

* * *

*2 лістапада я выпадкова апынуўся ў кіпцюрах нашай славутай міліцыі. Там, з 15 прысутных службовых асобаў па-беларуску не размаўляў ніхто. Маё жаданьне размаўляць на дзяржаўнай мове выклікалі насьмешкі ды адкрытыя зьдзекі. Старшына з пісталетам у кабуры заявіў афіцыйна, што „недорезаным фашистам и националистам скоро придет конец”.*

*(Свабода, н-р 43)*

Адраджэнне беларускай мовы працвітае, як бачым, па абыдвох баках „керзанскай” мяжы. На ўсходнім баку, на дадатак, гэта афіцыйна дзяржаўная мова.

* * *

*Вы, сп. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, цураецеся сваёй роднай мовы ды гаворыце выключна па-расейску. Цяжка ды несправядліва Вас абвінавачваць. Вы — прадукт свайго часу. Вы нарадзіліся ў няволі ды раслі ў няволі. Мне міжвольна прыходзіць на думку час турэцкіх захопаў славянскіх тэрыторыяў, дзе турκі бралі ў палон маладых хлопцаў ды ўзгадоўвалі іх у духу нянавісьці да народаў, з якіх яны выйшлі. Іх называлі янычарамі. Колькі ў нас на Беларусі такіх духовых янычараў, якія ненавідзяць усё, што беларускае?*, — піша Барыс Рагуля.

*(Беларус, н-р 417; Нью-Йорк)*

* * *

*Chciałbym, żeby nasze narody — polski i białoruski — nic nie dzieliło, żeby nie było między nami tej przegrody, jaką jest służba bezpieczeństwa, która rządzi w Polsce*, — сказаў Уладзімеж Малашкевіч, дзеяч Саюза палякаў у Беларусі.

*(Kurier Poranny, nr 249)*

* * *

*У Маскве стварылі праект новай чыгункі на Калінінград праз Беларусь у абход Літвы. У Мінску аб праекце нічога не чулі.*

*(Звязда, н-р 222)*

Усё нармальна!

# З мінулага тыдня

Прэм’ер-міністры Польшчы і Літвы абмяняліся ратыфікаваным парламентамі абедзвюх краін трактатам аб добрасуседскіх адносінах. Урачыстасць адбылася на пагранічным пункце ў Будзісках. Потым адбылася размова **Вальдэмара Паўляка і Адольфаса Шляжавічуса** ў Марыямпалі (на літоўскім баку), між іншым у справе пабудовы аўтастрады Вія-Балтыка і паралельнай да яе чыгуначнай лініі.

**Архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі Сава** адзначаў 15 гадавіну пасвячэння ў сан епіскапа. З гэтай нагоды ў Свята-Мікалаеўскім саборы Юбіляр узначаліў Літургію ў саслужэнні шматлікага духавенства.

**Прэзідэнт Беластока Анджэй Пётр Люса** нанёс афіцыйны візіт у Гродна, дзе сустрэўся з мэрам **Генрыкам Крупенкам** і старшынёй аблвыканкама **Сямёнам Домашам**, консулам РП у Гродне **Мар’юшам Машкевічам** і старшынёю Саюза палякаў. У ходзе візіту закранаіся пытанні гаспадарчага супрацоўніцтва паміж гарадамі, пашырэння культурных кантактаў ды супрацоўніцтва ў галінах асветы і аховы здароўя.

**Пытанням пагранічча** была прысвечана навуковая канферэнцыя ў Супраслі, якую арганізаваў Інстытут сацыялогіі Філіяла Варшаўскага універсітэта. У навуковым мерапрыемстве апрача мясцовых сацыёлагаў удзельнічалі навукоўцы з Беларусі, Італіі і Канады. Большасць дакладаў датычыла польска-беларускага пагранічча.

**Тадэуш Калюта** выбраны **куратарам асветы ў Беластоку**. Такое рашэнне прыняла міністэрская конкурсная камісія, разгледзеўшы дакументы двух кандыдатаў і правёўшы з імі размовы.

**У Беластоку** адбыліся цэнтральныя святкаванні 70-годдзя паўстання **Корпуса аховы пагранічча** (КОП). У Музеі войска з гэтай нагоды адкрылася выстаўка „70 гадоў КОП”.

**Ваяводская публічная бібліятэка ў Беластоку**, якую цяпер узначальвае **д-р Янка Зенюк**, адзначала 50-гадовы юбілей. Зараз бібліятэка налічвае 300 тысяч тамоў, а яе кнігазборам карыстаецца 7,5 тысячы чытачоў, пераважна настаўнікаў.

**Беластоцкі віцэ-ваявода Гжэгаж Рыкоўскі** сустрэўся з кіраўніцтвам суполкі „Еўрапольгаз” наконт вызначэння трасы міжнароднага газаправода Расея — Нямеччына. У Беластоцкім ваяводстве газапровод будзе пралягаць цераз тэрыторыю гмін Міхалова, Заблудаў, Пасвентнае, Юхнавец-Дольны, Сураж і Турасьнь-Касцельная.

**Па запрашэнню Сельскагаспадарчага дарадчага цэнтра ў Шэпятове** пабывалі ў Польшчы на стажыроўцы дзевяць фермераў, па нацыянальнасці палякаў, з Гродзеншчыны. Госці знаёміліся з функцыянаваннем сямейнай гаспадаркі, спазнавалі тэарэтычныя асновы эканомікі гаспадарання і займаліся ў гаспадарках сялян у ваколіцах Кольна і Высокага-Мазавецкага, а таксама наведалі Сельскагаспадарчы музей у Цеханоўцы.

**Калядныя падарункі для польскіх дзяцей на Гродзеншчыне** — гэта назва акцыі, якую праводзяць на Беласточчыне Консульства РП у Гродне і беластоцкі дадатак „Газэты Выборчай”. Мэта мерапрыемства — сабраць падручнікі па польскай мове, дапаможнікі, ласункі, цацкі, сувеніры і вопратку для школьнікаў.

**Фронт вызвалення жывёл** наладзіў у Беластоку антыфутравую дэманстрацыю пад лозунгам „У футрах толькі пячорныя людзі”. Група з 40 падлеткаў арганізавала шэсце, падчас якога перад магазінамі з футравымі вырабамі раздавалі лістоўкі з заклікам ахоўваць правы жывёл.

Перад Ваяводскім судом у Ломжы адбыўся **працэс трох рэкецёраў — грамадзян Беларусі**, якія ў ліпені мінулага года пад Замбравам спынілі аўтобус і вымаглі ад сваіх суайчыннікаў грошы. Суд прыгаварыў злачынцаў да трох гадоў турэмнага зняволення і аштрафаваў іх.

# Праз тыдзень у „Ніве”

> У Супраслі пра сацыялагічныя праблемы памежжа.

> Як на Гайнаўшчыне даюць дармавыя грошы.

> Размова Ады Чачугі з Сяргеям Лукашуком.

> Рымскія традыцыі ў Польшчы.

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## Незаконная пастанова

Канстытуцыйны Суд прызнаў, што нормы закона ад 6 кастрычніка г.г., якія прадугледжваюць скасаванне саветаў пярвічнага ўзроўню, не адпавядаюць Канстытуцыі. Вярхоўнаму Савету прапанавана ўвесці змяненні ў заканадаўства згодна з дзеючай Канстытуцыяй.

## Пара ўжо супрацоўнічаць

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка на сустрэчы з прафсаюзным актывам рэспублікі сказаў, што сітуацыя ў краіне шматгранная і вельмі супярэчлівая. Ён адкрыта заявіў, што крызіс у эканоміцы наслаіўся на крызіс улады (размова ідзе аб імпічменце прэзідэнта і рашэнні Канстытуцыйнага Суда аб неправамернасці ўказа аб мясцовым самакіраванні), аднак, прэзідэнцкая вертыкаль улады на месцах будзе ўстаноўлена на працягу двух тыдняў. Прэзідэнт адзначыў, што прафсаюзам пара ад крытыкі пераходзіць да канструктыўнага супрацоўніцтва.

## Спікер у Амерыцы

Дэлегацыя Вярхоўнага Савета са старшынёю Мячэславам Грыбам знаходзілася з візітам у ЗША, дзе яна прымала ўдзел у рабоце 40 сесіі Паўночнаатлантычнай Асамблеі (Беларусь з’яўляецца яе асацыіраваным членам). Беларускія парламентарыі ўдзельнічалі ў рабоце ўсіх пяці камітэтаў Асамблеі, выступілі на пасяджэнні па грамадзянскіх правах, дзе абмяркоўвалася пытанне аб далейшым развіцці дэмакратыі ў Беларусі, Малдове, Украіне і Расеі.

## Вучыцца гандляваць!

Калісьці вельмі папулярны бальшавіцкі лозунг „Вучыцца гандляваць!” зноў становіцца актуальным. Вучыцца гандляваць трэба не толькі дома, але і на сусветным рынку. Вось просты прыклад. Палякі купляюць у Беларусі казеін і затым прадаюць яго немцам. Немцы прыгожа расфасоўваюць і прадаюць амерыканцам у паўтара раза даражэй, чым яго купілі палякі. Ну а калі б самі беларусы прадалі ў ЗША? Італьянцы завалілі беларускі рынак сваімі макароннымі вырабамі і нават рыс італьянскай вытворчасці з’явіўся ўжо ў магазінах. Тым часам Барысаўская макаронная фабрыка патрабуе ва ўрада выдзеліць чарговыя новыя датацыі. Бязрадасныя падзеі і для птушкагадоўчай галіны. Сёння яе прадукцыю пацяснілі амерыканскія кумпячкі. Віцэ-прэм’ер Уладзімір Гаркун заклапочаны — ужо няма сёння куды падзець мяса з беларускіх птушкафермаў.

## Колькі на навуку

Пытанні фінансавання грунтоўных навуковых даследаванняў разглядаліся на чарговым пасяджэнні Акадэміі навук Беларусі. У цэлым па рэспубліцы на навуку і навучнае абслугоўванне ў наступным годзе будзе выдзелена 292 млрд. рублёў.

## Дапамога бежанцам

Упраўленне Вярхоўнага камісара па справах бежанцаў ААН даверыла Таварыству Чырвонага крыжа выкананне важнай місіі па аказанню грашовай дапамогі бежанцам з краін далёкага замежжа, якія цяпер знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі. Сродкі для гэтай мэты выдзеліла ААН, а рэспубліканскі ЧК узяў на сябе функцыі пасрэдніка. Частка грошай ужо выдадзена на рукі бежанцаў з Афганістана, Эфіопіі, Венесуэлы і іншых краін. Такая дапамога будзе аказвацца штомесяц,

## Не! — для ламачча

Выканаўчы сакратарыят Беларускай партыі зялёных звярнуўся да старшыні Кабінета Міністраў з адкрытым лістом, у якім прапануе ўстанавіць на аўтамабілі, што ўвозяцца ў краіну і выпушчаны да 1990 г., пошліну ў памеры 1 долар за кубічны сантыметр аб’ёму рухавіка. Зялёныя лічаць імпарт аўтамабільнага ламачча з краін Еўропы адной з галоўных прычын забруджання асяроддзя свінцом і іншымі цяжкімі металамі.

## Жыццё як у Парыжы

Такое параўнанне часта выкарыстоўваецца ў гутарковай мове. А сапраўды, якое яно, жыццё, у Парыжы? Напрыклад хлеб у Францыі даражэйшы за беларускі ў 40 разоў, затое шампанскае таннае. Чырвоная рыба каштуе 12 долараў за кілаграм, мяса — каля 10 дол. Розніца ў цэнах ёсць, але і ў заробках таксама. Француз атрымлівае ў сярэднім 1500 долараў у месяц, а беларус — 20.

## Зброя не цацка

На гэту прапісную ісціну, відаць, забыліся два пракурорскія работнікі і жорстка паплаціліся. Спачатку ў аднаго з іх — следчага Беларускай транспартнай пракуратуры — была бойка: адбіваўся ад невядомых на пустэчы. Потым — бальніца хуткай дапамогі, тупая траўма жывата, алкагольнае ап’яненне і нарэшце рапарт: страчаная табельная зброя з дзвюма абоймамі патронаў. Ну а ў яго калегі з Фрунзенскага раёна сталіцы больш ардынарная і недарэчная сітуацыя — пісталет і восем патронаў згубіў ён у маршрутным аўтобусе.

## Абакралі ў царкве

„На Міхала" ў Бельск прыехаў сам мітрапаліт Васілій. Не сядзець жа ў хаце ў такіх нязвыклых абставінах. Многія вернікі цягнуліся з усяго наваколля. Народу сабралася процьма.

Цётка Жэня прыехала аж з Кляшчэль. Пасля багаслужбы мела наведаць сям'ю, што жыве ў Бельску. А сям'я не абы-якая — сын з нявесткай ды мілыя ўнукі. Жанчына ўзяла з сабой усю пенсію. Хацела дапамагчы беспрацоўнаму сыну і ўнукам купіць сёе-тое, каб бабулю памяталі. Пенсіянерка палажыла ў кашалёк 2 мільёны.

У царкве было мілагучна і душна. Сустрэліся родныя, знаёмыя, сябры. Прыемна было ўдзельнічаць ва ўрачыстай багаслужбе. І бацюшкаў толькі, што не злічыць.

І ўсё было б як трэба, каб не кішэннікі. Калі ішлі з тацай збіраць ахвяру, пачалася сумятня.

— Я да сумкі, а яна адкрытая і платок толькі цягнецца. Ах божанькі, думаю, няўжо мяне абакралі. А побач жанчына чырвоная і духу не выпускае. У яе тое ж. А ззаду як нехта не крыкне: „Зладзеі, зладзеі, людкове ратуйце!" У царкве зашумела. Людзі разгледаліся, шапталі, хавалі свае грошы. Бо злодзея ў такой цясноце злавіць, што вуха сваё пабачыць. Толькі жыву і яшчэ ніколі-ніколі мне такое не здарылася. А каб злавіць таго лахмыту! Мы б яго там навучылі б. Адны казалі, што банда прыехала аж з Беластока, другія — што бяльсковыя. Ой, людзі мілыя, што я тады перажыла, словам не раскажаш. Выйшла так, што сын на дарогу мне грошы пазычыў. А ў гасціне то з таго ўсяго яды ў рот не ўзяла, — расказвала знаёмым цётка Жэня, вяртаючыся аўтобусам у Кляшчэлі.

**К. С.**

## Хацелася б памагчы

У „Ніве" н-р 44 ад 30 кастрычніка 1994 г. я прачытаў просьбу Любы Залогі з Беларусі, якая хоча ведаць, як называўся часовы лагер у Беластоку, дзе фашысты III Рэйха трымалі зняволеных. Не падлягае сумненню, што гэта быў лагер у Зялёнай. З гэтага лагера, у якім вязні падвяргаліся першым катаванням, перанесшых здзекі адпраўлялі ў розныя месцы Нямеччыны на працу ў фабрыках, у маёнтках або ў лагерах для зняволеных жыхароў захапленых немцамі тэрыторыяў — Беларусі, Расіі, Украіны і магчыма, што і іншых, якіх туды кіравалі ў выніку лапанак. Так, гэта быў лагер у Зялёнай, ля Беластока.

**Васіль Петручук**

## Нагляд за пагранічнымі водамі

У 1973 г. наладзілася супрацоўніцтва паміж службамі аховы навакольнага асяроддзя Беластоцкага ваяводства і Гродзенскай вобласці ў галіне аховы пагранічных вод ад забруджання. Яно дало вынікі па вырашэнню асноўных праблем (даследаванне якасці пагранічных вод, уніфікацыя метадаў даследавання, умовы супрацоўніцтва, уніфікацыя кантрольна-вымяральнай апаратуры).

Тры гады пазней вынесена рашэнне выдаць першую публікацыю, якая змяшчае справаздачу аб выкананні ў 1967—1976 гадах вымяральна-даследчых работ на пагранічных водах, у тым ліку і ракі Нарва за 1973—1976 гады.

З таго часу істотна пашырыліся задачы служб аховы навакольнага асяроддзя абедзвюх краін. Сярод прынятых і зрэалізаваных новых прац трэба назваць узгадненне водна-гаспадарчага балансу ракі Нарвы, пашырэнне кантролю якасці пагранічных вод, уключаючы рэкі Нетупу, Свіслач, Ласосну, узгадненне інвестыцыйнай дзейнасці на пагранічных водах. Новыя задачы, якія стаяць перад службамі, гэта: узаемны абмен дадзенымі аб стане навакольнага асяроддзя і ўплыў на чысціню паветра, распрацоўка сумесных падыходаў і спосабаў гаспадарання на тэрыторыі Белавежскага нацыянальнага парку, стварэнне сумеснай сістэмы нагляду за навакольным асяроддзем разам з ранняй сігналізацыяй аб пагражаючых асяроддзю фактарах.

Зусім нядаўна выйшла невялікім тыражом (500 паасобнікаў) публікацыя, якая завяршае чарговы этап сумеснай працы служб аховы навакольнага асяроддзя Беластоцкага ваяводства і Гродзенскай вобласці ў галіне аховы пагранічных вод. Загаловак гэтага выдання — „Ацэнка якасці вод ракі Нарва ў пагранічным створы ў 1977—1993 гадах і якасці вады вадасховішча Семяноўка ў 1991—1993 гадах". Выданне надрукавана ў двухмоўных версіях, польскай і беларускай, аб'яднаных у адзін том. Аўтарамі змешчаных прац з польскага боку з'яўляюцца: Марэк Кэндзяжаўскі, Гжэгаж Бок, Крыстына Кісьлюк, Браніслаў Пекутоўскі, Збігнеў Кроткэ, Чэслаў Аколаў, з беларускага: Пётр Путро, Леанід Дзесюкевіч, Рамуальд Панасюк, Вольга Забароўская.

Польская частка кніжкі праілюстравана звыш трыццацю каляровымі здымкамі.

**П. Байко**

## ДАВЕДНІК МАЛАДОГА САДЫСТА

Ужо пару разоў прыйшлося мне глядзець нядзельную тэлеперадачу для дзяцей „Дабраноцка". І за кожным разам прапаную сваім дзецям выключыць тэлевізар і заняцца чым іншым, што, зразумела, выклікае іх рашучы пратэст.

Што затым тэлебачанне прапануе малышам перад сном? Амерыканскі фільм Дыснея, у якім нейкія малпалюды з кашмарнымі маскамі і кашмарнымі галасамі пастаянна паўтараюць: „Przynieś złoto", „Oddaj złoto", „Ja cię uduszę", „Uciekajmy, bo on nas zabije". Калі нават у сродках масавай інфармацыі вучаць дзяцей грубіянства, бязлітаснасці, гвалту, хамства, тады няма чаго здзіўляцца, што 16-гадовыя хлопцы бываюць забойцамі. У тыднёвіку „Палітыка" (н-р 48) Анна Маталоўска піша пра такіх менавіта хлапчукоў, якія без ніякай прычыны закатавалі чалавека, хаця нават не ведалі свае ахвяры. Невядома чаму непрытомнага чалавека білі амаль паўгадзіны, падпалілі валасы, каменем ламалі косці і ўрэшце палілі квасам. Сярод забойцаў быў сын уласніка багатай фірмы, якому ніколі нічога не бракавала. Ніхто ў школе не мог паверыць, што хлопцы маглі зрабіць такое зверства.

Адкуль затым яно ўзялося? Адкуль бярэцца жорсткасць у школах і г.зв. гульні з „катамі"? Напоўнены сцэнамі насілля перадачы для дзяцей, не ўспамінаючы ўжо пра фільмы, якія на касетах штодня глядзіць моладзь, не астаюцца без следу на псіхіцы маладых людзей! Невядома чаму ў тэлебачанні нельга паказваць чалавечую нагу вышэй калена, але затое крывавыя сцэны гвалту можна паказваць даволі, што аж даросламу робіцца агідна.

Якія мэты ў прапагандаванні гэтага зверства?

**Васіль Кургановіч**

## А гавораць...

Нават Тадэуш Канвіцкі калісьці сказаў, што Беларусь павінна называцца Дабрарусcю, бо нічыёй зямлі не таптала і на нікога не нападала. Я, малы чалавечак, з ім пагадзіўся і цешыўся, што яна такая спакойная і добразычлівая. Аднак слухаючы 22 лістапада г.г. радыёперадачу Юркі Ляшчынскага, я з сорамам для сябе даведаўся, што менавіта Гродна захапілі беларусы (так трэба думаць), бо ж Віктар Шалкевіч сказаў, што ў часы II Рэчы Паспалітай у Гродне жыло палова палякаў і палова яўрэяў. Значыць, што ў гэтым горадзе, цяпер акупаваным беларусамі, не было ні беларусаў, ні тым больш праваслаўных.

Бачыце, як яно ёсць: не пытай старых, а пабывалых. Зараз беларуская адміністрацыя чым хутчэй павінна, і то з сорамам, вынесціся недзе аж у Мінск, а Гродна аддаць законным уласнікам — але не жыдам, бо іх зямля ў Ізраілі, калі не ўсіх немцы падвергглі генацыду.

**В. Петручук**

P.S. Шаноўнаму барду нешта каламуціцца; раз спявае, што шавец з Крынак і ягоны сын, будучы пісьменнік Краце, вазілі ў Гайнаўку гаршкі замест ботаў, ды й яшчэ ў панядзелак, а не ў сераду, то зноў гаворыць, што ў Гродне не было беларусаў. А я ведаю, што аб Яновічу можна спяваць пекную праўду, а не хлусню.

## Шарык

Недзе пад восень закончыў свае жыццё мой кот Шарык. Мо хто-небудзь цяпер усміхнуўся, дык зусім непатрэбна. Вядома, усе Елені і Косы яшчэ з дзяцінства помняць, што Шарык — не кот, але калі ў пачатку сямідзесятых ішлі мы, жэўжыкі, біць фашыста, дык апрача ката нічога чатырохнагага пад рукой не было і беднаму мурлыку прыйшлося выконваць сабачую функцыю.

А ў рэшце рэшт, калі Ваня быў Густлікам, танкам — стары свінятнік, тады чаму кот не мог часам быць сабакам?

Праўда, думалі мы тады, што наш Шарык дурань дашчэнтны: замест брахаць на немцаў, якія хаваліся за старым срачыкам, ён працягла мяўкаў і ганяўся за вераб'ём, які прылящеў сталавацца ў куратнік.

Спатрэбілася многа, многа гадоў, каб зразумець, які геній сядзеў у маленькай Шарыкавай галоўцы.

Як я ўжо ўспомніў, быў гэта пачатак сямідзесятых, калі людзі пачыналі „żyć dostatniej", а дэмакратыя недзе ў пэгеэрах пад Гданьскам рамантавала фанары ў папсаваных трактарах. Разумнай газеты пачытаць таксама не было магчымасці (па той простай прычыне, што будучыя рэдактары якраз фарсіравалі Одру на танках „Руды 102").

Разумееце цяпер, чаму мой Шарык — самы інтэлігентны кот на свеце, хаця дэмакратыі і свабоды слова не бачыў, „Над Лугам і Нараю" не чытаў, а ўсё-такі ведаў, хто ён.

Бывала, прыедуць хлопцы з Галоўнай брыгады кашэчай дрэсіроўкі (ГБКД), малако пад нос тыцкаючь:

— Брашы! — кажуць.

Ды не, і не.

Разумны быў мой кот Шарык.

**Міхась Андрасюк**

P.S. Ёсць у мяне таксама маленькая просьба да сп. Трачука. Як бачу, у Вас, Мілы Спадар, магчымасці больш чым вялікія (вяртаеце беларусам частку Мазураў, а літоўцам — Сувальшчыну, і г.д.). Справа ў тым, што на вяселлі ў Косай Гапкі ў вёсцы Сучкін Сад падабралі мне шапку (рабую, з казырком). Калі Вы ведаеце, хто і калі заснаваў кожную вёсачку ад ракі Буг па Беласток, тады даведацца Вам, чые мазгі грэе сёння мая шапка (рабая, з казырком), думаю, малое піва. Ідзе зіма і холад. Скажыце злачынцам, няхай аддадуць. Дзякаваць не буду. У разлік за шапку (рабую, з казырком) даю Вам, сп. Трачук, Інфлянты.

**М.А.**

## Латарэя з прэсай

Купіць у Белавежы нейкую газету — гэта ў апошні час штораз большая праблема. Справа ўжо нават не ў недастатковай колькасці кіёскаў, але галоўным чынам у нетэрміновай дастаўцы прэсы. Газеты ў Белавежу давозяць рэйсавым аўтобусам. Нармальна яны павінны быць у продажы перад восьмай гадзінай, але часам выходзіць, што купіць іх можна толькі перад дзесятай.

І, вось, будзь разумны і ўгадай, калі ісці па газету? Паўбяды пенсіянеру, але той хто працуе, не купіўшы газету па дарозе на працу, вымушаны з яе звальняцца на нейкае паўгадзіны і потым гэты час адпрацоўваць. Пасля працы газету штодзённую ўжо не купіш, бо прадаўшчыцы непрададзеныя паасобнікі мусяць у той самы дзень спакаваць і адправіць назад. Не зробяць яны гэтага — на другі дзень непрададзеныя газеты ім ужо не разлічаць. Па той прычыне на адну гадзіну да закрыцця кіёска газеты пакуюць для звароту, каб паспець на вызначаны аўтобус.

Іншы клопат такі, што нярэдка колькасць прысланых газет не згаджаецца з накладнымі. Прадаўшчыца, не давяраючы сабе і дакументам, пералічвае дастаўлены тавар пару разоў. Людзі чакаюць, нервуюцца, а час бяжыць. Бывае і так, што нехта пераблытае пакункі. Не так даўно ў Белавежу трапіла прэса прызначана нейкаму кіёску ў Чаромсе. І прадаўшчыцы зноў вырашай загадку — прадаваць прысланае, ці адаслаць назад? А людзі нервуюцца!

Здараецца часта і так, што нейкай газеты зусім не прышлюць. Колькі тады роспачы ў тых, хто гуляе ў „здрапкі" ці іншыя газетныя латарэі!

Прэсу зараз надзяляе аддзел „Руху" ў Беластоку, але падобныя праблемы, хаця ў меншай крыху ступені, былі і тады, калі рабіла гэта Гайнаўка, а потым Бельск-Падляшскі. Белавежцам хіба астаўся толькі адзін выхад — наогул перастаць чытаць прэсу!

**Пётр Байко**

## Хто за гэтым стаіць?

Бельскія ўкраінцы прывозяць з Украіны калектывы і паказваюць іх па Беласточчыне. Не так даўно, вось, прывезлі адзін такі хор у Новае Беразова. Заехалі ў вёску ды адзін мужчына, хіба з кіраўніцтва калектыву (не займаўся гандлем пад плотам), падыходзіць да вяскоўцаў ды кажа больш-менш так:

— Мы да вас братцы-украінцы прыехалі з прыгожаю песняй, з добрым словам і гумарам...

Сяляне паслухалі гэтага, хто прамаўчаў, а хто паціснуў плячыма. Адзін з іх адважыўся і прамовіў:

— А хто вам так напіз...ў, што мы тут украінцы? Мы пра „украіну" ніколі тут не чулі. Што мы браты, то згода, бо мы ж славяне. Вельмі добра, што прыязджаеце да нас з добраю песняй, з гумарам і добрым словам. За гэта мы вельмі ўдзячны вам, бо нам тут бракуе культуры, мала мы чуем свае песняў на штодзень.

Калі б вы бачылі гэтага кіраўніка ў той момант — ён чырванеў, то бялеў напераменку. Затым стаў прасіць прабачэння за тое, што арганізатары гастроляў падманулі яго. Добра сталася, што знайшоўся чалавек, які праясніў усю сітуацыю. Але што ў такім выпадку мае сказаць бабуля, скажам з Тафілаўцаў або Курашава, калі Рыжык ці Місяюк сунуць ёй пад нос мікрафон і пытаюць:

— Ну як, падабаецца вам украінская песня?

І што яна мае адказаць? Што не падабаецца? Была б гэта няпраўда.

**Падляш**

# Беларусь і Польшча ў Еўропе

Так азагалоўлена была канферэнцыя, якая адбылася ў днях 18—19 лістапада г.г. у Яблонцы каля Варшавы. Удзельнічала ў дыскусіі звыш 70-ці інтэлектуалаў і палітыкаў з абедзвюх дзяржаў. Сярод членаў беларускай дэлегацыі было 6 дэпутатаў Вярхоўнага Савета, якіх прозвішчы прагучалі не толькі ў Беларусі. Былы прэзідэнт Станіслаў Шушкевіч ці старшыня парламенцкай камісіі па справах гаспадарчых кантактаў з замежжам Уладзімір Новік — добра вядомыя таксама і ў польскіх палітычных кругах.

Прадстаўляючы арганізатара канферэнцыі, Фонд імя Баторыя, Войцех Заянчкоўскі ва ўступным слове шчыра заявіў, што палякі пра Беларусь нічога не ведаюць і не цікавяцца гэтай краінай. Звярнуў ён увагу на абсурднасць такой сітуацыі і патрэбу зменаў у свядомасці польскага грамадства.

Выступаючы першым, дакладчык Леанід Зайка, які прадстаўляў Цэнтр стратэгічных ініцыятываў Усход — Захад з Менска, гаварыў пра магчымыя варыянты развіцця палітычнай сітуацыі ў Беларусі. Палітолагі з Менска апрача далейшай стагнацыі і анархізацыі прадбачваюць яшчэ магчымасць усебаковай інтэграцыі Расіі, Беларусі, Украіны, балтыйска-чарнаморскі саюз, рашучую пераарыентацыю беларускай палітыкі і эканомікі на Азію, а асабліва на Кітай, як найбольш надзейную краіну XXI стагоддзя. Фантазія мяшалася тут з рэальнымі прадпасылкамі беларускай палітыкі, а даклад у цэласці быў доказам, што няма ніякага абгрунтаванага праекта, вызначаючага шляхі беларускай дзяржаўнасці.

Марэк Карп з варшаўскага Цэнтра ўсходніх даследаванняў выказаў думку, што Беларусь з'яўляецца найслабейшай дзяржаўнай канструкцыяй у Еўропе. Галоўнай прычынай такога стану ёсць нацыянальная свядомасць грамадства. 80 працэнтаў — паводле Карпа — выказваецца за аб'яднанне з Расіяй. Тым не менш, закончыў дакладчык, калі ёсць дзяржава, будзе і народ.

Сямён Букчын — рэдактар часопіса „Европейское время" дайшоў да вываду, што большасць грамадства Беларусі зусім разгубленая, для іх адна дзяржава адышла, а другая яшчэ не прыйшла. Людзі, якія цяпер вызначаюць стан грамадскай свядомасці, выраслі пры камуністычнай сістэме і іншай не ведаюць. Пакуль што — паводле дакладчыка — існуе нейкі гібрыд у выглядзе руска-беларуска-савецкага народа. 35 працэнтаў рускіх у Беларусі адчуваюць сябе беларусамі, 40 працэнтаў — прыналежнасць да аднаго і другога народаў. Іх аднолькава, як і беларусаў, кранула савецкая сістэма.

Прадстаўляючы Беларускі народны фронт „Адраджэнне", Юры Хадыка заявіў, што ўсё, што гаворыць дакладчыкі — гэта толькі адлюстраванне стану свядомасці беларускай інтэлігенцыі, бо народ думае зусім інакш. Хадыка, вядомы ў Беларусі як яркі абаронца уніяцтва і каталіцызму, доказваў, што русіфікацыя перш за ўсё праводзілася рэлігійным шляхам, а дэмакратыя пакуль што не завітала яшчэ на беларускую зямлю.

Станіслаў Шушкевіч ацаніў сітуацыю зусім наадварот. Паводле яго Беларусь — гэта ахвяра дэмакратыі. У дэмакратычных менавіта выбарах народ прагаласаваў за Лукашэнку, які праводзіць цяпер антыбеларускую і антыдзяржаўную палітыку.

Уладзімір Новік звярнуў увагу, што палякі, таксама як бы не бачаць, што за Бугам няма ўжо Савецкага Саюза, а ёсць Беларусь. Каля дзяржаўнай мяжы стаяць паказальнікі, якія інфармуюць колькі кіламетраў да Масквы, быццам бы па дарозе не было Менска.

Юры Дракахруст, які прадстаўляў Незалежны інстытут эканамічных даследаванняў з Менска, на аснове вытрымак з прац сваёй фірмы заявіў, што працэнт выказваючыхся за аб'яднанне з Расіяй за апошні год павысіўся з 40 на 63. Кебіч і Лукашэнка падчас выбарчай кампаніі змагаліся за галасы выбаршчыкаў, сапернічаючы, хто хутчэй прывядзе да аб'яднання з Расіяй. Выйграў Лукашэнка, бо не быў пры ўладзе тады, калі развальваўся Савецкі Саюз, а ў парламенце галасаваў супраць белавежскіх пагадненняў, падпісаных Ельцыным, Шушкевічам і Краўчуком. Дракахруст выказаў усё-такі думку, што лепшы Лукашэнка, чым Кебіч. Ён жа не парыўся ў адной бані з маскоўскімі сакратарамі КЦ КПСС. Яны ім амаль адкрыта пагарджаюць як калгаснікам. І ў гэтым ёсць шанц, што калісь калгаснік адчуе сябе панам на сваёй зямлі.

Ігар Гермянчук з часопіса „Свабода" акрэсліў сучасную палітыку прэзідэнта як мітынгізацыю палітычнага жыцця ў Беларусі. Такая сітуацыя будзе доўжыцца да парламенцкіх выбараў, якія будуць найлепшым выяўленнем грамадскай думкі.

Шмат гаварылі беларусы, а палякі слухалі, часам ставілі нейкія пытанні. Слухаючы гасцей з Менска, у мяне складалася ўражанне, што гэтую дыскусію яны таксама добра маглі б правесці ў сябе, у нейкай утульнай зале. Але так было толькі ў першы дзень канферэнцыі.

Другі дзень пачаўся з выступлення Станіслава Шушкевіча, які параўнаў шляхі і тэмпы рэфармавання гаспадаркі ў Польшчы і Беларусі. Вядома, лепей гэта выглядала ў Польшчы, бо тут была для рэформаў лепшая грамадская атмасфера.

Вядомы каментатар і эксперт па справах Усходу Ежы Марэк Навакоўскі за найбольшую памылку польскіх палітычных элітаў палічыў ігнараванне здольнасці беларусаў да дзяржаўнай самастойнасці. Сённяшняя посткамуністычная эліта думае менавіта цяпер у такіх жа катэгорыях, па прывычцы аглядаючыся перш за ўсё на Маскву. Міждзяржаўныя сувязі, — гаварыў Навакоўскі, — не ствараюць на сённяшні час ніякай гарантыі нармальных адносін паміж беларусамі і палякамі. Патрэбныя перш-наперш сувязі паміж грамадствамі, паасобнымі людзьмі.

Таксама ў экуменічным тоне выступіў Юры Хадыка, які хрысціянскія імкненні да братэрства прадставіў з другога боку.

Мне самому прыйшлося, аднак, выказвацца пра існуючую рэчаіснасць, пра вобраз Беларусі і Польшчы ў прэсе абедзвюх дзяржаў. А гэтая рэчаіснасць явіцца, як вядома, не надта прыгожай, а не фрагментарны вобраз развеяў ілюзію міжнароднай любові, якая паспела стварыцца падчас двух дзён нарадаў. Ілюзію падчас дыскусіі прабавалі таксама развеяць маладыя польскія палітыкі Томаш Шчапаньскі і Павел Казанэцкі з Варшавы. Але, як трапна заўважыў Марэк Навакоўскі, у Польшчы няма палітычных цэнтраў, зацікаўленых супрацоўніцтвам з Беларуссю як самастойнай дзяржавай. А інтэлектуалы заўсёды могуць сабрацца, пагаварыць і раз'ехацца з добрымі ўражаннямі. Так і сталася.

**Яўген Мірановіч**

# НЕ ЛІЧУ СЯБЕ КАМІКАДЗЭ

*Працяг са стар. 1*

ўсебакова пазнаць і ацнаніць нашае становішча. Бо, як дагэтуль, то больш пра нас і нашы праблемы „ведаюць" іншыя. Мы ясна мусім сабе сказаць, дзе і з чым знаходзімся. Праўда можа аказацца горкай, але яна лепшая за ігнараванне. Як прыклад такога стаўлення магу назваць самыя розныя, фантастычныя, лікі адносна колькасці беларусаў у Польшчы, якія прыводзіць на розных мерапрыемствах той самы дзеяч. Раз трыста тысяч, іншым разам — чатырыста, а бывае, што і больш за паўмільёна.

Я планую ў рамках Беларускага саюза стварыць тры камісіі — дэмаграфічна-гаспадарчую, асветную і культурную, — якія ў супрацоўніцтве з самаўрадамі тых гмін, дзе жывуць беларусы, складуць як мага поўную інфармацыю пра нашу грамадскасць і яе патрэбы. Вынікі гэтых даследаў трэба будзе апублікаваць і распаўсюдзіць сярод нашага насельніцтва.

*— Якія задачы павінны быць для Беларускага саюза прыярытэтнымі ў найбліжэйшы час?*

— Школьніцтва. І то не толькі таму, што я настаўнік. Як напісаў Ян Максімюк: **„без нацыянальнай школы няма нацыянальнай свядомасці"**. Сённяшняя сітуацыя навучання беларускай мовы — трагічная. Без радыкальных крокаў у гэтай справе беларуская мова ў школах, нават як прадмет, скане.

А другая справа ўзнікла яшчэ ў канцы 80-х гадоў, у Беларускім клубе — задумку нашага палітычнага руху. Гэта **праект Цэнтра беларускай культуры ў Беластоку**. Без такога тыпу ўстаноў ніводная нацыянальная меншасць у канцы XX стагоддзя, калі асіміляцыйныя працэсы ідуць маланкава, не зможа захавацца. На жаль, на нашы пастулаты няма ніякага водгуку. А карысць ад такой установы не толькі для нашай нацыянальнасці, але і для дзяржавы. Па-першае, быў бы гэта вартасны навукова-інфармацыйны цэнтр, а па-другое, прыклад цывілізаваных адносін да нацыянальнай меншасці, што для Польшчы, якая падпісвае ўсе міжнародныя пагадненні аб правах чалавека, павінна быць істотнай вартасцю. Аднак прыклад беларускай філалогіі на Філіяле Варшаўскага універсітэта ў Беластоку паказвае адсутнасць добрай волі.

Ужо калі толькі ў дзвюх гэтых дзялянках даб'емся відавочнага зруху, буду лічыць існаванне Беларускага саюза апраўданым.

*— Дзе бачыш шанцы на поспех?*

— Дзякуй Богу, жывем у дэмакратычнай краіне і з гэтым я звязваю свае надзеі. Польшча ўсё больш інтэгруецца з міжнароднымі структурамі, якія вымушаюць сур'ёзную трактоўку нават самай малой групы грамадзян. Талерантнасць павінна стаць нормай. Беларускі саюз нічога больш не хоча, акрамя гарантый, якія выцякаюць з абавязваючага права. Усе нашы дзеянні былі і будуць згоднымі з законамі Польскай Рэчы Паспалітай. Сваім абавязкам будзем лічыць пратэсты ва ўсялякія ўстановы і арганізацыі, калі будуць парушацца правы беларусаў як грамадзян гэтай дзяржавы.

*— Дзякуй за размову.*

Размаўляў
**Мікола Ваўранюк**

# СУСТРЭЧА З МЯЧЭСЛАВАМ ГРЫБАМ

У днях 23—25 лістапада пабывала ў Польшчы дэлегацыя беларускіх парламентарыяў на чале са старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Мячэславам Грыбам. Сустрэліся яны з кіраўніцтвам польскай дзяржавы — прэзідэнтам, прэм'ер-міністрам, маршалкамі Сейма і Сената ды пасламі і сенатарамі. Увечары 24 лістапада ў пасольстве Рэспублікі Беларусь у Варшаве адбылася двухгадзінная сустрэча з прадстаўнікамі беларускай меншасці ў Польшчы. Прысутнічалі ў ёй, між іншым, Аляксандр Баршчэўскі — загадчык Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, Пётр Крук — старшыня Беларускага дэмакратычнага аб'яднання, Янка Сычэўскі — старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства, Кастусь Майсеня — старшыня Грамадскага камітэта пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы.



*Старшыня Вярхоўнага Савета РБ Мячэслаў Грыб (справа) і пасол РБ у Польшчы Георгій Таразевіч у час сустрэчы.*

Дыскусія канцэнтравалася, галоўным чынам, вакол цяжкага становішча беларускай культуры ў Польшчы і недахопу зацікаўлення Рэспублікі Беларусь сваімі суродзічамі за мяжой. Янка Сычэўскі гаварыў, што ў сувязі з усё меншымі датацыямі дзяржавы, беларуская культура ў Польшчы апынулася на мяжы выжывання. Для яе паратунку патрэбная дапамога Рэспублікі Беларусь. Аляксандр Баршчэўскі заклікаў да больш рэзкіх крокаў дзеля стварэння нацыянальнага аблічча беларускай дзяржавы. Гэта была б найбольшая маральная падтрымка для беларусаў замежжа.

Сярод спраў, прадстаўленых Мячэславу Грыбу, на жаль, дамінавалі асабістыя прыклады адмоўных кантактаў з рознымі масцей беларускімі чыноўнікамі. Зноў, у каторы ўжо раз, былі нараканні на паскудную дзяржаўную мяжу і трактоўку на ёй падарожных. Не хапіла ў дыскутантаў здольнасці на абагульненне, на селекцыю з процьмы спраў, хаця і балючых, тых найбольш істотных.

Старшыня Вярхоўнага Савета нагул пагаджаўся з выступленнямі, але прасіў ён прысутных улічваць цяжкую сітуацыю Беларусі. Гэта і праблема з працэсамі беларусізацыі, якія, хаця марудна, але ўсё-такі рухаюцца дапераду. Але перш за ўсё, цяжкае эканамічнае становішча дзяржавы, перад якой стаіць пытанне, як перatрываць зіму. Такія справы як дапамога культуры і то яшчэ ў чужой дзяржаве, зусім не будуць зразумелыя грамадству. Пасля канстатацыі гэтага сумнага факта падняць свой настрой можна было на банкеце ў прысутнасці вядомых палітыкаў.

М.В.
Фота аўтара

# СПРАВА НАС УСІХ

Маліннікі зараз называюцца „Malenniki”. Гэтую недарэчнасць выпраўляе аматарскі надпіс на аўтобусным прыпынку — „Malinniki Sity”. Вёска знаходзіцца па дарозе з Бельска ў Кляшчэлі і належыць яна Арлянскай гміне. Адсюль родам войт той жа гміны Міхал Іванчук.

На вуліцы лістападаўскі сум і пустэча. Ля школы чуваць гоман дзяцей. Якраз пачаўся перапынак.

— Калі б закрылі нашу школу, было б намнога пусцей. Добра, што войт нас падтрымоўвае, а то ўжо даўно мы апынуліся б у Орлі, — гавораць настаўнікі.

Пакуль што вучыцца тут каля сотні дзяцей, чвэрць школьнікаў з гэтага ліку з самых Маліннік. Дзяцей з навакольных вёсак давозяць на школьным аўтобусе.

— Самыя таленавітыя дзеці з Тапчыкалаў, што побач Пашкоўшчыны. Адтуль заўсёды прыходзілі „моцныя” вучні, — паясняюць працаўнікі школы.

У настаўніцкім пакоі сардэчная атмасфера. Сустракаю тут сваю знаёмую з студэнцкіх часоў. Вярнулася яна ў родную вёску і працуе настаўніцай пачатковага навучання. Дарэчы, у школе працуюць чатыры беларусісты. Праз год у групу шасцігодкаў прыйдзе толькі трое дзяцей.

— З вёсак паўцякалі многія. Жаль, што адплылі самыя амбітныя і таленавітыя людзі. Тыя, што засталіся, часта не ведаюць як змагацца з жыццёвымі праблемамі. Наглядаем праявы паталогіі. А дзеці прыносяць з сем'яў гэта ўсё ў школу. Калі мы ў змозе, дапамагаем такім вучням. Нярэдка бывае і так, што бацькі гэтых дзетак прыходзяць павучаць нас. Такая сённяя праца, — прызнаецца дырэктар школы Вольга Стэльмасяк.

Хаця ў гэтай школе няма ўсіх здабыткаў цывілізацыі, дык ёсць асаблівыя каштоўнасці. Юрка Буйнюк, вучань сёмага класа, піша прыгожыя вершы на беларускай мове.


*Ганулька Грыка з Пашкоўшчыны.*

— Мне блізкае асяроддзе, дзе жыву. Люблю сваіх людзей і мову, на якой гаворым і таму менавіта ніколі і не думаў пісаць інакш, як па-беларуску, — сказаў хлопец.

У Малінніках жывая палеская гутарка. Пашана да літаратурнае мовы таксама вялікая. У маленькай Ганулькі Грыка, вучаніцы трэцяга класа — артыстычная душа. Удзельнічала яна ўжо ў дэкламатарскім конкурсе беларускай паэзіі. Дзяўчынка родам з Пашкоўшчыны. Прыемна было пачуць і тое, што настаўнікі ганарацца такімі вучнямі. „Ганулька, нашая артыстка, напэўна будзе расслаўляць нашую мову”, — сказала беларусістка, матушка з Волькі-Выганоўскай, Мар'я Саевіч. Настаўніца не толькі дапамагае юным талентам. Яе вучні апрача таго, што ўмеюць пісаць і чытаць, набываюць беларускую свядомасць. Настаўніца карыстаецца пашанай сярод сваіх школьнікаў. Нават Юрка Буйнюк даверае ёй папраўляць свае вершы. У Малінніках усе вучні вывучаюць беларускую мову.

— Нічога незвычайнага ў гэтым няма, — сціпла сказала спадарыня Вольга Стэльмасяк.

— У нас ніколі не было таго, каб бацькі прыходзілі вызваляць сваіх дзетак ад гэтага прадмета. Іншая справа, што здараюцца выпадкі і вучань сам хацеў бы вызваліцца. Вядома ж, дзеці. Тады мы тлумачым такому вучню, што і так будзе ён абавязаны сядзець разам з усім класам, бо мы мусім забяспечыць яму апеку. Дрэнна таксама дзейнічае на псіхіку дзіцяці і такое, што адзін сядзіць і вучыцца, іншы пад акном гуляе, — тлумачыла пані дырэктар.

Ад настаўнікаў даведалася я таксама пра пазіцыю малінніцкіх педагогаў адносна роднай мовы, якую варта паставіць у прыклад іншым школам.

— Змагацца за беларускую мову ў школе павінны ўсе настаўнікі, а не адна беларусістка. Гэта ж справа нас усіх, — сказалі яны.

Цешыць таксама і тое, што большасць выпускнікоў паступае ў Беларускі ліцэй у Бельску. Для гэтага трэба нямала працы і надзеі.

Трэба, каб сціплыя словы дырэктар Вольгі Стэльмасяк прагучэлі па ўсёй Беласточчыне. Зараз у нас толькі тры пачатковыя школы, у якіх усе дзеці вывучаюць беларускую мову. Гэта: Маліннікі, Ласінка і Кленікі. Там таксама захоўваецца прынцып добраахвотнасці.

**Ганна Кандрацюк**
**Фота аўтара**


*Малінніцкія сямікласнікі. Першы справа — Юрка Буйнюк.*

# ФАРМАЛЬНЫЯ ПЕРАШКОДЫ

**Рашэнне аб адкрыцці беларускай філалогіі на Філіяле Варшаўскага універсітэта ў Беластоку было прынята ў маі гэтага года, г.зн. у час матураў. Але яшчэ ў чэрвені можна было па тэлефоне пачуць адказ з дэканата: „Nie wiadomo jak z tą filologią białorosyjską będzie”.**

* * *

Нягледзячы на гэтыя акалічнасці, на першым курсе беларускай філалогіі апынуліся канчаткова 13 асоб. Выкладчыца і адначасна апякунка курса прывітала іх: **„Навошта вам гэтая беларуская філалогія?”**

Як бы на пацвярджэнне яе слоў, пасля месяца навукі стала вядома, што беларускай філалогіі ў Беластоку не будзе. Замест яе — расейская з беларусістыкай як другой спецыяльнасцю.

— Нас проста ашукалі, — кажуць студэнты, — ішлі мы на беларускую філалогію, а апынуліся невядома на чым. Спачатку казалі нам, што будзе беларусістыка з германістыкай (незважаючы на гэта, людзей, якія раней вывучалі англійскую мову), потым — беларусістыка з русістыкай, а цяпер выходзіць, што наадварот. Маем стаць русістамі з дадатковай спецыяльнасцю беларусіста і можа з правам навучання нямецкай мовы. Для некаторых з нас расейская філалогія, гэта апошні напрамак, які б выбралі.

— Каб утварыць аддзельны напрамак у вышэйшай школе, трэба як мінімум пяць самастойных навуковых працаўнікоў, — гаворыць **праф. Ян Францішак Насовіч, кіраўнік Інстытута ўсходнеславянскай філалогіі Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку**, — гэта значыць габілітаваных дактароў (у Беларусі — дактароў — М.В.). У нас толькі двух самастойных беларусістаў, прафесар Міхал Кандрацюк і прафесар Генадзь Цыхун з Менска. Са студэнтамі займаюцца яшчэ д-р Яніна Вішнеўская і д-р Люба Бісякірская. Практычныя заняткі па мове вядзе студэнтка пятага курса філалогіі Гродзенскага універсітэта. На трэцім курсе русістыкі беларускую літаратуру выкладае дацэнт Ксенафонт Лецка з Гродна. Як г.зв. *visiting professors* задэкларавалі ў нас заняткі: дэкан Аддзялення беларускай філалогіі і культуры Гродзенскага універсітэта Ігар Жук — сучасная беларуская літаратура, дацэнт Пётр Навіцкі з Гродна — курс граматыкі, архівіст з Санкт-Пецярбурга Мікола Нікалаеў (тэма будзе ўдакладнена) і пісьменніца з Менска, галоўны рэдактар тыднёвіка „Культура”, Вольга Іпатава — міфалогія, народная творчасць. Спіска людзей, якія будуць сустракацца са студэнтамі маглі б нам пазайздросціць іншыя навуковыя ўстановы. Але фармальны перашкод не перaскочым. **Не можам рабіць выключэнняў ад абавязваючых законаў.** Па гэтай самай прычыне — нястача навуковых кадраў — зачыніўся ў нас тэхнічнае выхаванне, а матэматыка з поўнага пяцігадовага універсітэцкага курса стала трохгадовымі прафесійнымі студыямі для настаўнікаў. Таму мы прынялі кампраміснае рашэнне. Фармальна будзе гэта русістыка з беларусістыкай, але фактычна большасць заняткаў будзе па-беларуску.

— Якая нам справа да таго, што вучэльня не ў змозе знайсці адпаведную колькасць вучоных, — абураюцца студэнты. — Мы прыйшлі сюды вучыцца, а не шукаць сабе настаўнікаў. Зрэшты, па падручнікі некаторыя з нас ездзілі ў Бельскі беларускі ліцэй, бо нават у інстытуцкай бібліятэцы няма ніякіх. Няма таксама ніякіх матэрыялаў для працы ў лабараторыі.

— Сапраўды, з навуковымі дапаможнікамі ў нас клопат, — прызнаецца праф. Насовіч, — а навуковыя ўстановы, гэта ж не будынак, толькі людзі і кніжкі. Разлічваем на дапамогу. Я ведаю, што ў Варшаве на беларускую філалогію прыходзілі дары, можа не ўсе там выкарыстоўваюцца, можа некаторыя перадалі б нам. Я заўсёды прашу людзей, якія едуць у Беларусь, каб прывозілі з сабой вартасныя выданні. Добра, што ў нас неблагое тэхнічнае забеспячэнне, камп'ютэр, ксераграф, дык робім копіі, друкуем патрэбныя на занятку матэрыялы. З Менска прысылаюць нам бясплатна „Голас Радзімы”, якім таксама могуць карыстацца нашы студэнты.

— Усё гэта праўда з фармальнымі перашкодамі, — кажа **праф. Міхал Кандрацюк, загадчык лабараторыі беларусістыкі ФВУ**, — але ёсць і іншая праўда. А менавіта такая, што многа ў Польшчы кафедраў філалогіі, якія не маюць патрэбнай колькасці самастойных навукоўцаў, а працуюць. Прыкладам можа быць хаця б кафедра беларускай філалогіі ў Варшаве, дзе толькі адзін самастойны навуковы працаўнік. Калі б так строга прытрымліваліся крытэрыяў, то ў Польшчы пасля вайны не ствралася б русістыка, бо на ўсю краіну быў толькі адзін прафесар па гэтай спецыяльнасці і той заняўся літуаністыкай. **Часамі патрэбная добрая воля і крыху зацікаўлення з боку ўлад навуковай установы.** Хачу дадаць, што кадравая сітуацыя ў нас яшчэ палепшыцца, бо працаваць пачне неўзабаве праф. Анна Мятлюк з Інстытута замежных моў у Менску ды доктар Лілія Цітко. Рыхтуецца да вяртання з Менска Васіль Сегень, якога я туды быў паслаў на трохгадовую стажыроўку. Дык можа з цягам часу ажыццявім першапачатковую задуму — беларускую філалогію з германістыкай.

— Паставілі нас у становішча: „чакайце”, — выказваюць свой жаль студэнты, — але як доўга маем чакаць, год ці пяць гадоў? Пытанне гэтае істотнае, бо датычыць нашага страчанага часу.

* * *

21 лістапада Беларускі саюз, на сваім нечарговым сходзе, прыняў пратэст у справе закрыцця беларускай філалогіі ў Філіяле Варшаўскага універсітэта ў Беластоку. Некалькі дзён раней журналіст Беларускай праграмы Польскага радыё ў Варшаве, Уладзімір Пац, звярнуўся з заклікам да навукоўцаў Беларусі, каб прыязджалі на працу ў Беласток. Паводле яго, праф. Насовіч абяцаў прыняць дзве асобы. Зарплата — 200 амерыканскіх долараў у месяц — можа аказацца прывабнай для менскіх прафесараў. Перавышае яна іхнія заробкі ў дзесяць разоў.

**Мікола Ваўранюк**

## Яшчэ пра беларускую мову ў школах

„Ніва” пра беларускае школьніцтва піша многа. Умешвацца ў гэтыя справы можа мне і не трэба, але калі чытаю, што „Ніва” давяла да занепаду беларускага школьніцтва на Беласточчыне, дык нервы пусцілі і вырашыў я дакінуць свае слова да гэтай дыскусіі.

Як не кажы, але галоўная роля ў навучанні беларускай мовы прыпадае школе, а можа лепш сказаць, павінна прыпадаць школе. Гэта так відавочная справа, што аж Віктар Швед мусіў аб гэтым прыпамінаць у сваёй „Неюбілейнай прамове” настаўнікам беларускага ліцэя ў Бельску-Падляшскім.

Закід на пленуме ГП БГКТ у бок „Нівы”, што „аплёўвае” яна беларускае навучанне ў школах, з'яўляецца памяшаннем прычыны з вынікам. Ніхто на штодзень не ўяўляе сабе, што паслугоўваецца логікай Арыстоцеля, але прычына і рэзультат, гэта асноўная схема высновы. Не ведаю, ці вучаць цяпер настаўнікаў логікі. Па закідах у бок „Нівы” відаць, што нават калі і вучаць, то эфект гэтага навучання невялікі. Калі Педагагічны ліцэй у Бельску-Падляшскім рыхтаваў настаўнікаў да навучання, то логіка, якую выкладаў знакаміты прафесар Лявон Карачун, была асноўным прадметам для будучага настаўніка. А так, пры нагодзе, хачу падкрэсліць, што ліцэй рыхтаваў не толькі настаўнікаў, але і місіянераў, якія мелі несці культуру ў беларускія вёскі. І гэтыя маладыя людзі не толькі навучалі дзяцей, але рабілі або прынамсі стараліся рабіць нешта карыснае для грамадства вёскі.

Цяпер пэўна таксама ёсць настаўнікі, якія на вёсцы не толькі працуюць, хоць папраўдзе добры настаўнік не працуе, а служыць, і не ў іх бок ідуць гэтыя разважанні.

**М. Куптэль**

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

*Уладзімір Карызна*

## ЗАГАДКІ

*

Усю ноч
Сярэбраны капыток
Па збажыне лятаў,
Але ніводнага каласка
не стаптаў.

*

Памажы мне, браток,
Хутчэй разабрацца:
Якія гэта браты
Пабеглі ў калодзеж купацца?

*

Б'юць мяне кулакамі,
Садзяць у агонь камякамі,
Папоўніцы губяць,
Бо ўсе мяне любяць.

*

Хата не хата,
Ёсць крылы і куль,
Дзірак багата,
А вылезці нельга адтуль.

*

Ён і стукае, ён і грукае,
Здаецца, не для забаў,
Ды ні бараны, ні плуга
Ні разу не змайстраваў.

*

Крывенькі сам,
Маленькі сам,
А ловіць рыбу
З кілаграм.

*

Гуляе, жыруе,
Мільён, можа, дзетак,
У кожнага
Панцыр з манетак.

*

Зямлю лычом варочае
Гарбаты гэты дзед.
Сам есці век не хоча ён,
А корміць цэлы свет.

*

Хто, каб жыць,
Дзень і ноч
Бяжыць і бяжыць,
Не збягаючы з воч?

*(рака, плуг, рыба, кручок, гром, сецъ, хлеб, вёдры, маладзік)*

*Сямікласніцы з Маліннік.* **Фота Г. Кандрацюк**

## Юны паэт

Юрка Буйнюк з Маліннік піша прыгожыя беларускія вершы. У іх расслаўляе сваю мясціну, сяброў, родных, наваколле.

Зараз ён вучыцца ў сёмым класе. Юрка прачытаў ужо ўсе беларускія кніжкі са школьнай бібліятэкі. Самае вялікае ўражанне зрабіла на ім „Новая зямля" Якуба Коласа. Хлопец чытаў яе тройчы. Гэтае прызнанне сведчыць аб тым, што ў Юркі вельмі тонкі і добры літаратурны густ. Не дзіва тады, што вершы юнага паэта таксама натхнёныя і вобразныя. На штодзень ён, як і ўсе вясковыя хлапчукі ў яго ўзросце, рыхтуе ўрокі, гуляе з сябрамі, памагае бацькам. Пра сваю будучыню пакуль што канкрэтна не гавораць.

— Кожны ж мае свае мары, — сказаў ён. Запэўніў таксама, што і далей будзе пісаць вершы на сваёй роднай мове.

**Г. Кандрацюк**
**Фота аўтара**

## Вершы Віктара Шведа

### ШАНТАЖ

На музыкі ўроку
Настаўнік знерваваны
Не зводзіць свайго зроку
З Івана-хулігана.

— Калі ты разам з намі
Не ўпішаш песні ў сшытак —
Скажу тваёй я маме,
Што ты... таленавіты!

### ПУСЦІЎ ЛЯВОН МАГНІТАФОН

Матуля просіць сына:
— Змілуйся, мой Лявон,
Сцішы хоць на хвіліну
Ты свой магнітафон.

Нанёс ты шуму ў хату,
Хоць ты сядай ды плач.
Перашкаджаеш тату
У рашэнні тваіх задач!

### ЛЯ ДОШКІ

Ля дошкі галасіла
Плаксівая дзяўчынка:
— А я не заслужыла
На вашую „адзінку"...

— Прэтэнзій аніякіх
Ты мець не можаш, Аня.
Ніжэйшае адзнакі
Няма у навучанні.

### САМАВУК

Прыйшоў з пытаннем гэткім
Да дзедка малы ўнук:
— Скажы мне, мілы дзедка,
Хто гэта — самавук?

Дзед паясніў малому:
— Гэта вучань такі,
Хатніх задач якому
Не рашаюць бацькі.

### ПАСЛУХМЯНЫ — НАСТАЎНІК!

Матуля дубасіць
Сынка-хулігана:
— Хто у вашым класе
Найбольш паслухмяны?

Тут нечакана
Азваўся Колька:
— У нас паслухмяны...
Ёсць настаўнік толькі!

**Адказ на „Падарожжа..."**. Квадраты. *Амар — 3, Арам — 3, рама — 4, мара — 4.*

# ДОБРЫ ХЛОПЕЦ ДЗІК

## 27
### Дзік-вартаўнік. Знаёмства з Петрыкам (1)

— Дзік, глядзі ў акно!

Сабака ахвотна прымаў даручэнне, бег да крайняга ад дзвярэй акна, адкуль быў відзён ганак, і клаў лапы на падаконне: а што ж там робіца на двары? Калі ўсё было ціха, ніхто не стукаўся да нас, не хадзілі незнаёмыя, гракі не збіралі чарвей каля плота, сабака адварочваў морду да таго, хто падаваў голас: „Чаго трывожыцца, маўляў, ніякіх падстаў клікаць мяне на дапамогу няма, тым больш перабіваць сон. Калі шурхне што, я пачую раней".

Так яно заўсёды і бывала. Дзік імгненна абуджаўся нават ад шолаху, без загаду бег да акна, і, не дай Божа, калі прыкмячаў чужога ці, яшчэ горай, сабаку. Ён з размаху расчыняў дзверы грудзьмі, разводзячы лапамі паслухмяныя палавінкі. А ў сенечках падымаў брэх, адсунуць зашчапку самому не ўдавалася.

Шпаркая бяга, нашыленая поўсць, гучнае гаўканне былі не больш як шумавы эфект, сабака адпуджваў прышлага, нікога з людзей ён не парваў, хоць і мог скубянуць за порткі, калі хто хапаўся за кій. Не кусаў і сабак, налятаў віхурай, збіваў з ног і прыціскаў пераможанага да зямлі. Таму не заставалася нічога іншага, як падцісніць хвост і ісці прэч.

Чуткі пра Дзікаву лютасць хадзілі вельмі перабольшаныя. Паверыў у гэта і адзін ленінградскі паэт. Выбіраючыся адведаць нас, загадзя склаў вершаваны надпіс на сваёй кнізе.

Вершык быў адразу ж перакладзены і прачытаны ў прысутнасці Дзіка і відавочна ўпадабаны ім:

*Хай Вашым сабакам уджгнуты*
*без жалю*
*У рове прыезджы паэт,*
*Ды Вам персанальна, таварыш*
*Лужанін,*
*Ён шле свой гарачы прывет.*

Тут жа Вадзіму, так звалі паэта, былі прадэманстраваны некаторыя нумары накшталт падскокаў па камандзе „Сэм!" — „Сэр?" і „Паглядзі ў акно!". Апошні загад даваўся даволі часта.

Звычайна, агледзеўшы праз акно двор, сабака заставаўся абыякавы, калі там хадзілі жыхары суседняга дома: свае людзі, бачыш іх кожны дзень. Твары і постаці абвыклыя, як дваровыя дрэўцы і дрывяныя хлеўчукі ўздоўж агароджы.

Хіба для Лявона і Аліка можна было зрабіць выключэнне: махнуць хвастом і ўсміхнуцца, ці добразычліва паказаць зубы, што выклікала ў іх вялікае захапленне.

Добрым вокам пазіраў Дзік і на іншых хлапчукоў, якія высыпалі гуляць з двухпавярховых драўляных баракаў, што належалі недалёкаму заводу. Малыя плацілі яму сімпатыяй за сімпатыю і спрабавалі ўчаставаць кавалкам абаранка ці аладкі. Дзік ад чужых ежы не прымаў, але ў такіх выпадках, каб не ўкрыўдзіць чалавека, браў пачастунак, адносіў пад плот і заграбаў пяском.

Дзеці рагаталі і дзівіліся.

Алік растлумачыў:

— Сабака не грэбуе, але якраз паснедаў, не галодны, — потым зойдзе і з'есць.

Петрыкаў бацька, заводскі інжынер, чарнявы мужчына высокага росту, непрыязна глядзеў, як Дзік закопваў ладнаваты кавалак белага сыру, урачыста паднесены яму Петрыкам.

— Ты што, збіраешся тут буфет адчыняць? — інжынер пхнуў сабаку нагой. — Гэтаму і людзі жадны.

Той адскочыў, прыняў ваяўнічую паставу, але стрымаўся і не брахнуў нават.

Петрык кінуўся, прытуліўся шчакою да натапыранай поўсці сабакі.

Тады перапала і яму:

— А ты — дадому! І больш не ацірайся каля брудных псоў!

Петрык, размазваючы па тварыку слёзы, пайшоў за бацькам.

Ні я, ні Дзік не маглі тады суцешыць яго — сварыўся не хто-небудзь, а родны бацька.

Зрэшты, ягонае абурэнне можна было зразумець: і людзі, і горад толькі-толькі станавіліся на ногі пасля вайны — збыткавацца не было чым. Да таго ж Мільчанка, так звалі інжынера, шчадзіў кожную капейчыну, ён збіраў грошы на матацыкл...

*(працяг у наступным нумары)*

**Максім Лужанін**

# ПАДАРОЖЖА ПА МОВАЗНАВІІ
11

### Акралогі

— гэта загадкі, у якіх задуманае слова чытаецца зверху ўніз па першых літарах слоў (*акрас* па-грэчаску *крайні*), а словы павінны быць назвамі прадметаў таго ж віду, напрыклад:

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| р | а | б | і | н | а | | |
| э | ў | к | а | л | і | п | т |
| п | р | а | л | е | с | к | а |
| а | л | е | ш | ы | н | а | |

гэта, як і *рэпа*, усе прадстаўнікі расліннага свету.

Складзіце акралогі:

| | | | |
|---|---|---|---|
| К | | | |
| е | | | |
| д | | | |
| р | | | |

| | | | |
|---|---|---|---|
| К | | | |
| л | | | |
| ё | | | |
| н | | | |

| | | | |
|---|---|---|---|
| З | | | |
| у | | | |
| б | | | |
| р | | | |

| | | | |
|---|---|---|---|
| З | | | |
| а | | | |
| я | | | |
| ц | | | |

| | | | |
|---|---|---|---|
| В | | | |
| а | | | |
| с | | | |
| я | | | |

| | | | |
|---|---|---|---|
| Б | | | |
| а | | | |
| к | | | |
| у | | | |

Правядзіце конкурсы: хто больш складзе акралагаў за абмежаваны час, а таксама — хто хутчэй складзе акралаг на дадзенае, агульнае для ўсіх, слова. Такія ж конкурсы магчымы ў заснаванай на перастаноўках літар гульні, якая называецца

### Квадраты

| | | | |
|---|---|---|---|
| А | М | А | Р |
| Р | А | М | А |
| М | А | Р | А |
| А | Р | А | М |

Для яе можна скарыстаць разразную азбуку. Тлумачэнні даюцца ў выпадку патрэбы вусна, напрыклад: *амар* — марскі рак; *Арам* — імя кампазітара Хачатурана. Колькі слоў тут у розных напрамках?

*(працяг у наступным нумары)*

*Астрыд Ліндгрэн*

## ЛОТА
## Нашы гульні

Кожны дзень Джонас і я распачынаем гульні. Мы дазваляем Лоце гуляць з намі, калі яна ўжо ведае правілы гульні.

Але часам, калі мы гуляем у піратаў, мы не хочам, каб Лота была з намі. Яна ўвесь час блытаецца пад нагамі і падае са стала, які як быццам з'яўляецца нашым караблём. Потым яна плача, скардзіцца, але зноў і зноў хоча гуляць з намі. Гэтымі днямі Джонас спытаў яе:

— Ці ведаеш ты, што трэба рабіць, калі гуляеш у піратаў?

— Калі ты пірат, ты ўзлазіш на стол, а потым саскокваеш з яго, — адказала Лота.

— Але ж можна зрабіць і лепш, — сказаў Джонас. — Запаўзці пад ложак і ціха-ціха ляжаць там.

— Чаму? — спытала Лота.

— Ты толькі ляжыш там, прытвараючыся піратам. Гаворыш увесь час: „Хачу есці, хачу есці, хачу есці". Гэта якраз тое, што піраты і робяць, — сказаў Джонас.

І Лота паверыла, што гэта сапраўды так. Яна забралася пад ложак і паўтарала: „Хачу есці, хачу есці".

Мы з Джонасам уладкаваліся на стале, які быў нашым караблём, і паплылі, а Лота тым часам сядзела пад ложкам і бубніла: „Хачу есці, хачу есці". Было нават больш цікава сачыць за Лотай, чым гуляць у піратаў.

У рэшце рэшт Лота спытала:

— Як доўга піратам трэба сядзець пад ложкам, гаворачы гэтыя словы?

— Да Калядаў, — адказаў Джонас.

Лота выпаўзла з-пад ложка:

— Я не хачу больш быць піратам, таму што яны мне не падабаюцца.

Іншы раз Лота — добры памочнік у нашых гульнях. Напрыклад, калі мы гуляем у анёлаў — у анёлаў-захавальнікаў. Тады нам патрэбен хтосьці, каго трэба абараніць; мы абараняем Лоту. Яна ляжыць у сваім ложку, а мы стаім і размахваем рукамі, нібы анёлы, якія лятаюць і махаюць крыламі. Але Лоце гэтая гульня не падабаецца таксама, таму што яна зноў павінна ляжаць ціхенька. Гэта тое ж самае, што яна робіць, калі мы гуляем у піратаў, толькі на гэты раз трэба ляжаць на ложку, а не пад ім.

Часам мы гуляем у бальніцу. Джонас — урач, я — сядзелка, а Лота — хворае дзіця, якое зноў ляжыць у ложку.

— Зноў мне ляжаць у ложку, — сказала Лота, калі мы неяк папрасілі яе пабыць хворай. — Я хачу быць доктарам і ўсунуць лыжку ў рот Марыі.

— Ты не зможаш быць доктарам, — сказаў Джонас, — таму што ты не ўмееш напісаць рэцэпт.

— Што я не ўмею напісаць? — спытала Лота.

— Рэцэпт — гэта тое, што піша доктар. Ён гаворыць табе аб тым, як ты павінна даглядаць за хворымі дзецьмі, — адказаў Джонас.

Джонас ужо навучыўся пісаць друкаванымі літарамі, хаця ён яшчэ не ходзіць у школу. Чытаць ён таксама можа. Але мы не пойдзем у школу, пакуль нам не споўніцца сем гадоў.

Аднак мы прымусілі Лоту легчы ў ложак і прыкінуцца хворай.

— Як ты сябе адчуваеш, мая маленькая дзяўчынка? — спытаў Джонас. Ён гаварыў, нібы доктар, які прыходзіць да нас, калі ў нас адзёр.

— Хачу есці, хачу есці, хачу есці, — паўтарала Лота. — Я раблю выгляд, што я пірат.

— Не дуры! — крыкнуў Джонас. — Спыніся! Мы не дазволім табе гуляць з намі, калі ты будзеш рабіць такое глупства.

Лота супакоілася і зноў стала „хворай". Яна нават дазволіла нам налажыць павязку на руку, а таксама і на грудзі. Скрозь павязку на грудзях Джонас пачуў, што сэрца было вельмі хворае. А калі ён засунуў лыжку ёй у горла, то аказалася, што і горла было вельмі і вельмі хворае.

— Прыйдзецца зрабіць ёй укол, — сказаў ён.

Аднойчы, калі Джонас быў хворы, доктар рабіў яму ўколы, і ён хутка ачуняў, і вось таму ён хацеў зрабіць укол Лоце. Ён узяў цыравальную іголку, якая была вельмі падобна на іголку доктара.

Але Лота не хацела ніякіх уколаў, — яна брыкалася, пішчала:

— Не хачу я гэтых уколаў!

— Ну, дурненькая, мы ж не ўзапраўду, — адказаў Джонас. — Я ж не збіраюся ўтыкаць у цябе гэтую іглу, ці ж ты не разумееш?!

— Усё роўна не хачу ўколаў, — енчыла Лота.

І мы амаль што спынілі гэтую гульню.

Але ж я ўсё-такі выпішу рэцэпт, — сказаў Джонас. Ён сеў за стол і алоўкам напісаў друкаванымі літарамі на шматку паперы, але ж я не магла гэта прачытаць. Вось што там было: „За хворай дзяўчынкай трэба даглядаць. Ёй павінен зрабіць укол доктар Джонас Мартэнсан".

Нам з Джонасам спадабалася гуляць у бальніцу. А Лоце — не.



*На перапынку ў бельскай "тройцы".*

**Фота Г. Кандрацюк**

*Амагелды Аланазараў*

### Лічылка траіх кацянят

Шэры кот,
Сыты кот
Кіпці вострыць у паход.

А ў паходзе
Дзіўным гэтым
Будзеш мерзнуць
Нават летам.

Кот
Вачыма заварочаў —
Апранацца
Кот не хоча.

Апраналі
Мы ката
Ад вушэй
І да хваста.

Падабралі
Хутка майку,
Сшылі
Ватную фуфайку.

І кату мы,
Як умелі,
Шапку цёплую
Надзелі.

У той шапцы
Кот наш дробны
Быў на пудзіла падобны.

Ды як пойдзе
У паход,
Не замерзне
Шэры кот!

*пераклаў з туркменскай*
*Ул. КАРЫЗНА*

# Вясёлы куточак

— Гэта практыкаванне вельмі добра напісана. Прызнайся, Пеця, хто яго пісаў: мама ці тата?

— Не ведаю. Я тады ўжо спаў.

* * *

Размаўляюць два сябры.

— Ведаеш, учора кідаў я грошы і падумаў, што калі выпадзе рэшка, то вазьмуся за ўрокі, а калі арол — пайду на дыскатэку.

— Ну і што, выпаў арол?

— Так, толькі што за пятым разам.

* * *

— Ці ты верыш у чорта? — пытае Пецю настаўнік рэлігіі.

— Думаю, што з гэтым чортам так ёсць, як і з Дзедам Марозам: нарэшце так атрымліваецца, што гэта быў мой тата!

* * *

— Скажыце, дзеткі, што трэба зрабіць перад сном?

— Трэба паставіць за дзвярыма бутэльку на малако.

* * *

— Татка, калі ты быў малы, даставаў ад дзеда рэменем?

— Ага, даставаў.

— А ці дзедку таксама біў яго тата?

— Але.

— А прадзеда таксама бацька караў рэменем?

— Вядома. Чаму ты мяне пра гэта пытаеш?

— Хачу ведаць, хто пачаў такое!

* * *

— Ну, і як там з ім? — пытаюць вучні сябра, які хадзіў наведаць хворага настаўніка матэматыкі.

— Ой, вельмі дрэнна. Паслязаўтра прыходзіць у школу!

Даслаў
**Андрэй Гаўрылюк**

# Песня застаецца ў сэрцы

*Працяг са стар. 1*

Ёсць і падарункі. Новы бурмістр горада Бельска Андрэй Сцепанюк, які прызнаецца, што сам не шмат старэйшы за „Васілёчкі", заклікае: „Мы — маладыя, дык давайце яшчэ нешта зробім супольна для Бельска і беларускай культуры!" — і ўручае памятныя дыпломы, абяцаючы падмацаваць іх нечым больш канкрэтным. Старшыня Гарадской рады і дырэктар Пачатковай школы н-р 3 Васіль Ляшчынскі найбольш цешыцца, што ён і калектыў — цёзкі, аднайменнікі. А дырэктар Беларускага ліцэя Зінаіда Навіцкая, якую „нават хвароба не затрымала", крыху ахрыплым голасам жадае поспехаў калектыву, у якім спявае нямала яе былых вучняў.

Выступалі войт Арлянскай гміны Міхась Іванчук і айцец Георгій Такарэўскі — настаяцель Васкрасенскай царквы, вучні Беларускага ліцэя, харысты з іншых калектываў Беласточчыны. І ўсё гэта перапляталася спевамі „Васілёчкаў" з пажаданнямі, якія выцягвалі з запаветнага куфрыка вядучыя праграму.

Думаю, што найбольш дакладна выявіў ролю „Васілёчкаў" Янка Сычэўскі, старшыня Галоўнага праўлення Беларускага таварыства: „Ці ж жыў бы Бельск без „Васілёчкаў"? Жыў бы, але што гэта было б за жыццё?!"



*Адзін з наймалодшых гледачоў — Алеська Ваўранюк яшчэ на каленях сваёй мамы.*

Варта, каб аб гэтым памяталі не толькі харысты і бельскія ўлады, але і мы ўсе. Не маем права дапусціць да таго, каб па легендарных „Васілёчках" засталася толькі легенда.

**Ада Чачуга**
**Фота аўтара**



*„Васілёчкі" спяваюць на сваім 30-гадовым юбілеі.*

# Гэта ўжо гісторыя

Нядаўна, калі рабіў я парадак са сваімі кнігамі ды газетамі, трапіўся мне ў рукі „Беларусі каляндар на 1957 год", пра які я ўжо цалкам забыў. Але гэта ж быў першы каляндар, выдадзены ў Польшчы на беларускай мове і таму варта пра яго сказаць пару слоў. На другой старонцы чытаю: „У апрацоўцы календара ўдзельнічалі: В. Баршчэўскі, В. Леўчук, Б. Манкевіч і С. Яновіч". Рэдактар выдання М. Баравік. Здымкі Ю. Леў і ЦАФ. На трэцяй старонцы партрэт Янкі Купалы, далей слова да чытачоў. Вось яно.

„Дарагія чытачы! Сёння аддаем у вашы рукі першы беларускі каляндар у Польскай Народнай Рэспубліцы. Не сумняваемся, што выхад гэтага календара шматтысячнае беларускае насельніцтва ў Польшчы прыме з радасцю. Беларускаму насельніцтву патрэбны свой беларускі каляндар, які з'яўляўся б дапаможнікам і дарадчыкам у жыцці і працы беларуса-селяніна, рабочага, інтэлігента, беларускай моладзі і дзяцей, у якім беларус знайшоў бы штосьці цікавае і карыснае, які б адлюстроўваў сучаснае жыццё беларусаў у Польшчы і гісторыю беларускага народа.

Праўда, у ім можа быць шмат недахопаў, бо апрацоўка календара працягвалася вельмі коратка, і ён мо не поўнасцю задаволіць чытачоў. Дзеля гэтага звяртаемся да вас з просьбай прысылаць свае заўвагі і пажаданні адносна гэтага календара. Вашы заўвагі і пажаданні памогуць нам у будучым апрацаваць лепшы каляндар.

Разам з гэтым календаром да вас, дарагія чытачы, ідуць нашы шчырыя пажаданні, каб першы беларускі каляндар у Народнай Польшчы здабыў сабе ваша прызнанне і любоў.

Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку"

Унізе ў рамачцы: „Арганізуйце гурткі Беларускага грамадска-культурнага таварыства".

Каляндар малога фармату, старонак у ім 160, тыраж 10000 штук, цана 5 злотых.

Гартаю старонкі і не маю сумненняў — ён цікавы і карысны. Ёсць у ім навіны і універсальныя парады. На 35-тай старонцы важнейшыя гістарычныя даты, верш Пятруся Броўкі, карта Польшчы з тагачаснымі ваяводствамі. Далей можна знайсці вершы беларускіх паэтаў, іхнія біяграфіі, ёсць таксама гумар і сатыра, прымаўкі. Можна ганарыцца сваім першым беларускім календаром.

**М. Панфілюк**




*Міра Лукша*

**СНЕЖАНЬ**

Ты адыходзіш, я ад'язджаю...
Мароз сціскае зубы у злосці,
А снегапад ад нябакраю
Павіс над Менскам белай плошчай.
Забрала нас сабе завея,
Забрала нас сабе завея,
Зайздросна нас засыпаў снег.
Мы чуем гэта: час адмераў
Сваю хвіліну, як паўвеку.
Таксі мільгнула па Машэрава,
Кальнула зорка пад павеку.
Забрала нас сабе завея...
І сумны наш паэт знаёмы,
Аблядзянелы, з хворым сэрцам,
Панёс абоіх нас дадому.
Паставіць свечку ля люстэрка.
Забрала нас сабе завея,
Забрала нас сабе завея,
Зайздросна нас засыпаў снег...

*Уладзімір Саўчук*

* * *

сярод забытых простых слоў
радзімай нашай мовы
пішам мы Вам — вы наша кроў
для паяднання і размовы

суседа знойдзем мы ў рабоце
калі ёсць для размовы тэма
змілуйцеся толькі не забудзьце
якая ў гутарцы ёсць схема

ці белым сцягам мы пацягнем
ці простай мовы рытм заколе
малы мой грош — я сірата
хаця вучыўся ў роднай школе




**Дарагая Рэдакцыя!**

Я хацела вельмі падзякаваць за „Ніву", якую ты мне прыслала. Я задаволена, што калі хтосьці патрабе нейкі нумар газеткі, можа быць упэўнены, што яго атрымае.

Цяпер я таксама маю просьбу. Я хацела б даведацца штосьці больш на тэму: **Чаму пачатак XX ст. у гісторыі беларускай літаратуры называецца новым перыядам?**

**Мажэна Ялоза,**
**Барысаўка**

**Ад рэдакцыі:** Спадзяемся, што ў адной з найбліжэйшых літстаронак „Белавежы" пакажацца артыкул — адказ на гэтае пытанне.

# Вярнуць надзею і веру ў будучыню

*Імкненне да лепшага жыцця — з'ява універсальная.*
*Біл Клінтан*

Ва ўсходняй Беласточчыне на працягу нейкага часу адбываюцца складаныя, часцей за ўсё адмоўныя, працэсы. Рэцэсія гаспадарчага жыцця ў рэгіёне, беспрацоўе, дрэннае матэрыяльнае становішча многіх сем'яў, дэградацыя дэмаграфічнай структуры вёскі пасля шматгадовага „бежанства" ў гарады, заміранне своеасаблівай беларускай культуры, амаль поўная адсутнасць інстытутаў яе аховы, крайняя раз'яднанасць беларускіх асяроддзяў, асіміляцыя маладых, асабліва гарадскіх пакаленняў, пераважна кансумпцыйны падыход да жыцця, крызіс грамадскай думкі і актыўнасці, дэгуманізацыя ў міжлюдскіх кантактах — хіба гэта найважнейшыя з некарысных змен. Пачатак амаль усіх быў далёка перад 1989 годам.

Заглядзеўшыся на вяршыні дзяржаўнай улады, не заўсёды здагадваемся, як вялікае значэнне для нашай штодзённасці маюць таксама спосабы кіравання сярод вялікай грамады так званых звычайных людзей. Заходняя аўтамашына, багатыя бацькі на вёсцы, віла ў горадзе — на правінцыі гэта якраз галоўныя козыры, якія робяць чалавека больш высакародным на працы. Вартасці розуму?.. На далейшым плане. Калі ты бедны, можаш стаць на галаве, рабіць розныя піруэты, а і так не праб'ешся на паверхню абледзянелай рэчаіснасці. У найлепшым выпадку можаш стаць агароднікам з казкі Андэрсена. Царствуе матэрыя, не дух, не розум, не прафесіяналізм. Вакол атмасфера незразумення, часам дзікасці, смеху ды падазронасці. Спіхнутыя ў выніку блакады на край самотнасці не дасягаюць у жыцці сваю Джамалунгму, жывуць з кляймом непаўнацэннасці, духоўнага дысідэнцтва, гаснуць іх непаўторныя здольнасці, або і таленты. Таму ўсімі грамадскімі сіламі трэба заўчасна рэкамендаваць людзей вартасных для гэтай зямлі, для беларушчыны, для праваслаўя, для талерантнага сужыцця нацый.

Эгаізм зараз атрымаў статус пажаданага грамадскага стаўлення. Як правіла, без асаблівых цяжкасцяў усё-такі даецца адрозніць амбітных людзей ад хворых на ўладу кар'ерыстаў. Усіх аднак правяраюць вынікі працы і намаганняў, не прамовы, не паказуха. Менавіта таму выконванне грамадскіх абавязкаў патрабуе скромнасці, стрыманасці, бескарыслівасці, думання катэгорыямі ўсеагульнай справы.

Трэба даць шанц маладым, здольным, амбітным і нескампраметаваным. Інтэлектуальны патэнцыял адукаваных пакаленняў не можа раптам аказацца патаптанай ружай-кветкай, патаптанай перш-наперш сваімі. У маладых адкрыты розум на тое, што новае, лягчэй ім выходзіць па-за межы пракладзеных схемаў і прывычак.

Сёння патрабуем добрых эканамістаў, юрыстаў, спецыялістаў па пабудове дарог, сельскай гаспадарцы, будаўніцтве, але і варта звярнуцца за дапамогай да высокаадукаваных гуманістаў, культуразнаўцаў. Каб выйсці з зачараванага кола прапаганды паражэння, каб адбудаваць у сэрцах суайчыннікаў надзею і веру ў будучыню, патрэбны людзі аўтарытэтныя, людзі, дастойныя публічных пасад.

Самыя вялікія стымулы развіцця і замацавання дэмакратыі, а таксама перабудовы грамадскай свядомасці скрываюцца ў структурах мясцовых самаўрадаў. Дэмакратыя — гэта свет плюралізму і кампрамісу, гэта ўмеласць сужыцця таго, што разнароднае і канфліктнае. Зразуменне аргументаў контрпартнёраў з'яўляецца ўступам да пагаднення, паразумення і прагматычнага, цывілізаванага дзеяння, падпарадкаванага маральнаму нагляду.

Грамадзянскага ладу не збудуем інакш, як толькі на праўдзе. Статыстычная большасць аднак жа не заўсёды мае рацыю. Менавіта таму трэба інвеставаць у адукацыю, абмен інфармацыяй і ідэямі.

Грамадская (нацыянальная?) палітыка ў гмінах рэалізуецца эканамічнымі і адміністрацыйнымі сродкамі і метадамі. Братоў-палякаў трэба заахвоціць да размоў на тэму будучыні нашай Малой айчыны. Усё, што беларускае, вядома ж, не антыпольскае, а роднаснае, бо славянскае і хрысціянскае. У атмасферы павагі да кожнай іншасці трэба з'ядноўваць людзей сваімі адносінамі, стабілізуючы ўплываць на бег спраў, каб без шкоды прайсці праз цяжкі час трансфармацыі дзяржаўнага ладу.

Гісторыя ды сучаснасць Еўропы і свету паказвае яшчэ і тое, што пагрозай заўсёды было і ёсць культурнае уніфікатарства, тым больш у многанацыянальных рэгіёнах. Таму для ўсходняй Беласточчыны вельмі непажаданы беларускі этнічны крах.

**Ю. Баена**




**Адказ на заяву**

Хацеў я з цэлага сэрца пагадзіцца са сп. Васілём Петручуком і зрабіў усё, што было толькі магчымае, каб так сталася. Некалькі разоў пісаў у „Ніву" і перапрашаў яго. Мае сябры звярталі нават увагу, ці не занадта моцна я перапрашаю, быццам бы меў я на сумленні нейкае злачынства.

На маю працягнутую да згоды руку атрымаў быццам бы прабачэнне Петручука, але я не ўпэўнены, ці не было яно вымушанае намаганнем айца Віталія Гаўрылюка. Ліст нейкай Галіны з Беластока аказаўся падзякай за маё імкненне да згоды. Не ёсць ужо цяпер важнае, хто калісь меў рацыю. У палеміцы, якая вялася паміж мной і Петручуком пару гадоў таму назад, выказаліся мы ў даволі вострым тоне. Кожны пісаў, што думаў. Прайшло пару гадоў і я палічыў сваім хрысціянскім абавязкам прабачыць за ўсё дрэннае, што напісаў на мяне Петручук і прасіць у яго прабачэння за тое, што я выказаў наконт яго асобы. Я веры́ў, што падаўшы руку спадару Васілю Петручуку, дапамагу і яму пакінуць стары свет поўны нянавісці і ўвайсці ў круг, дзе хрысціянскія прынцыпы і гатоўнасць да прабачэння вырашаюць пра адносіны да чалавека. Хай сабе ён будзе чалавекам няверуючым — яго справа — але здавалася мне, што і яму лягчэй будзе жыць у свецце, у якім не царствуе воўчае права, змаганне ўсіх з усімі. На жаль, маё шчырае імкненне памірыцца не сустрэлася з такім жа жаданнем з другога боку.

**Мікалай Панфілюк**

**Паважаная Рэдакцыя!**
**Дарагая спадарыня Галіна з Беластока!**

З вялікім хваляваннем прачытаў я пісьмо, памешчанае ў „Нашай пошце" („Ніва" н-р 47). Нам, чытачам, было вельмі радасна, калі мы бачылі на старонках „Нівы" публічнае прымірэнне спадароў-карэспандэнтаў Панфілюка і Петручука. Паявіліся надзеі, што ў далейшым яны будуць пісаць згодна, без зняваг. А пішуць яны цікава, кожны па-свойму. Праўда, адзін больш проста, другі больш вучона, але гэтае ў нічым не мяшае. Дрэнная гэта справа дзяліць карэспандэнтаў на вартасных і менш вартасных. „Ніва" для ўсіх!

Спадарыня Галіна! Праўда, Панфілюк часам бывае выбуховы. Але прачытайце яшчэ раз яго перапросіны. Яны не штучныя, не падлізныя. Пераканайцеся, што там усё праўдзіва напісана, ад сэрца. А Вы пішаце: „...АЛЕ ШТО З ГЭТАГА..." Каб Вы ведалі, як высока ў Бога пакаянне! Калі гэтага Вам мала, тады пішыце, чаго яшчэ трэба. Да перапросін Панфілюка сам сп. Петручук паставіўся добра. Спадзяемся, што і былы галоўны рэдактар не супярэчыць гэтаму. Не распачынайце зноў гэтай „палемічнай вайны"! Шкада было б нішчыць плён намаганняў а. Віталія з Дубіч, дякуючы якому здзейснілася гэта прымі-рэнне! Шчаслівыя міратворцы, бо робяць яны вялікае дабро. Людзі, шануйце перапросіны блізкага — ён Вам тады не вораг!

**С.М.,**
**Беласток**

**У адказ Галіне з Беластока**

Перад тым, як расказаць Галіне з Беластока („Наша пошта", „Ніва" н-р 47 ад 20.11.1994 г.) пра стан маёй — былога галоўнага рэдактара — душы, неабходна прыгадаць факты чатырохгадовай даўнасці, аб якіх успамінае яна ў сваім лісце-ананімцы.

У верасні 1990 г. у „Голасе Радзімы" — менскім тыднёвіку для беларусаў у замежжы — з'явіўся артыкул Васіля Петручука „У нас ніхто не пытаўся", у якім закранаіліся пытанні ўстанаўлення польска-савецкай мяжы пасля II сусветнай вайны і дзяржаўнай прыналежнасці беларусаў Беласточчыны. Кантраверза, як вядома, выклікае крытыку і гэтую прапісную ісціну павінны ўлічваць усе, хто публічна выказваецца на спрэчныя пытанні, асабліва ў друку. Свой пункт гледжання ў сувязі з гэтым матэрыялам выказаў Мікалай Панфілюк у артыкуле „Дух сталінізму, пагарды і хлусні" ў „Ніве" н-р 42 ад 22.10.1990 г. Тэкст М. Панфілюка крыху пазней з'явіўся таксама і ў „Голасе Радзімы" (н-р 49). Пакрыўдкаваны Васіль Петручук меў магчымасць палемізаваць са сваім апанентам, чаго доказам можа быць ягоны тэкст „Скунс" („Ніва" н-р 25 ад 23.06.1991 г.). Відаць, пра гэта ніхто сп. Галіне не сказаў, а яна ўжо тады, як сама піша, „Ніву" не чытала.

Хачу яшчэ звярнуць увагу і на тое, што погляды аўтараў публікацый не заўсёды супадаюць з меркаваннямі рэдактара ці рэдакцыі. Нельга затым пазіцыю рэдактара атаясамліваць з пунктам гледжання таго ці іншага аўтара. З'яўленне ў той час рэзкіх, крытычных выказванняў на старонках друку для многіх — прызвычаеных да адзінай слушнай лініі — чытачоў здалося ерассю, шакіравала іх і, відаць, некаторыя да сення яшчэ не ачомаліся ад гэтага.

Задавальняючы цікавасць сп. Галіны з Беластока, паведамляю, што і тады, і сёння я не знаходжу повадаў, з прычыны якіх мне трэба каяцца і пасыпаць галаву попелам. Публікацыі ў „Ніве" не былі прычынай, а толькі вынікам складаўшайся сітуацыі, адлюстраваннем поглядаў, настрояў і супярэчлівасцей, якія раздзіралі нашае грамадства. Роля прэсы — паказваць свет такім, якім ён ёсць у сапраўднасці, а не прыхарошваць яго. Крытыка, як відаць, мала каму падабаецца, але літаратары і публіцысты павінны яе ўспрымаць рацыянальна, а не толькі абражацца на апанентаў.

**Віталь Луба**

# ІКОНЫ

**Частка XIII**

Прадаўжаю выказванні майго бацькі аб іконах і рэлігіі:

„Ну, а што касаецца ікон то магу табе сказаць яшчэ аб адной справе. Было гэто на фронці дзесь за Брэстам, але не помню ў якой меснасці. У час спакойных дзён на фронці нас павялі ў месцову цэркву, у каторай была чудатворная ікона. А можэ гэто не была цэрква, а толькі манастыр, дакладно не помню. Ну, то значыцца, у гэтой цэркві паказвалі нам гэту чудатворну ікону і расказвалі аб тым, як гэта ікона ў час пажару спасла гэту цэркву ад агню і пажар сам па сабе згас, хоць і быў агарнуў усю цэркву. Ї знаеш ты што? Можэ тыдзень пазней немцы пашлі ў наступленне. На нашых ачах ад нямецкаго снарада цэрква гэта разам з усімі іконамі згарэла да тла. От табе і маеш чудатворную ікону!

Мне то здаецца так, што ніякіх там чудатворных ікон німа, а ўсё значэне іконаў то не ў самых іконах, а толькі ў тым, як людзі да іх адносяцца. Калі чалавек моцно верыт і калі ён у іконе бачыт такую сілу, катора ему памагае, то значыцца, што можно заверыці аб святасці такое іконы. Бачыш, так яно бывае, што чалавек сам сабе можэ вельмі моцно памагчы і вельмі моцно пашкодзіць. Калі ён вельмі моцно возьме сабе ў голаў, то і праўда можа стацца няпраўдаю і няпраўда праўдаю. Мне ужэ, бачыш, за восемдзесят лет. Ад 1914 да 1922 року я не быў у Бандарах. Ты ж толькі падумай, восем лет на чужой зямлі. Пабачыў я розных людзей. Найболыш вялікарусаў, але і беларусаў бачыў многа, і палякаў, і жыдоў. Ты знаеш, якія найгоршы людзі? Ні палякі, ні рускія, ні нават немцы, а толькі дуракі. А такіх поўно ў усіх народаў. Ну, а найбольшы дуракі то тые, што сілаю хочут сваё мыслі ўбіць у галаву другіх людзей. Ад такіх уцікай і сам ніколі не будзь такі. Ніколі ні нападай на таго, хто думае не так як ты. Ніхай думае, як ён хочэ і ты таксамо думай, як хочэш. Ты ж много пішэш. Відно гэто камусь патрэбно. Тут мне Васька гаварыў, што некаторы на цябе нападают. Хай нападают, ты не лезь у ніякі дурацкі сваркі. Разумны людзі разберуцца, а дуракі, хай думают, што хочут. Ты сваё рабі і ўсё.

Ну, але я зноў гавару ні аб тым, аб чым трэбо. Ты ж аб іконах пытаў. Мне здаецца, што мы ж праваслаўны людзі, павінны мець сваё, ну, як тут сказаць, сваё знакі, ну значыцца, іконы. Ї мне здаецца, што не важнэ тое, што там на іх нарысованэ, а толькі тое, як яны памагают чалавеку. А калі хтось верыт, то яму памагают, а як хто не верыт, то яму ў нічым не шкодзят. От, таму бачыш, я ніколі тваёй мацеры ні перашкаджаў ні верыць, ні маліцца і з папамі ніколі не сварыўся. Калі так пагляджу на цэлэ сваё жыцце, то бачу, што ў ім больш было кепскаго і бедовага, чым добраго. Але гэто можэ і добрэ, бо чалавек, каторы не жыў у бедзе, не можэ быці добрым чалавеком.

Я ўжэ доўго не пажыву. Смерці не баюсе. Калі Бог ест, то напэўно ён не судзіт людзей на той падставе, колькі яны Богу маліліссе, а толькі колькі зрабілі добрага для іншых людзей. Ї таму ты не старайся прынаровіцца Богу, а толькі старайся добрэ рабіці людзям.

Ї табе яшчэ прыведу такія два прымеры. Перад вайною, ты напэўно гэто помніш, у Бандарах паявіўся чужы чалавек. Гаварыў ён па-руску і сказаў, што ён прыехаў з Бесарабіі. Усе бандарцы называлі яго румынцом. Калі прыйшлі да нас саветы, то зараз яго арыштавалі і след па ім прапаў. Аказалася, што гэтага румынца падаслала польская паліцыя і ён быў яе сышчыкам. Помніш, ён жыў на нашым падворку у удавы Масеўкі. Ну то гэты румынец просто запыняў людзей і ўсім гаварыў, што німа Бога. Калісь прыйшоў да нас дахаты і сказаў: „Как долго ты, Андрей, будешь держать на стенах этих идолов. Повыбрасывай. Повыбрасывай эти иконы к чорту". Я яму адказаў: „Ты знаеш што, мы тут тысячу лет живем па-своему, а ты тут жывеш ні цэлы рок. — Ты нам не ўстанаўлівай сваіх парадкаў. Жыві як хочэш, вер або ні вер, але да нашых дзелоў ні ўмешвайся. Бо магу цябе і з хаты вытурыць". Але гэто мало памагло. Ён цэлы час гаварыў, што Бога німа, і што ўсё жывое на свеці „создалось само собой". То я аднаго разу ему сказаў так: „каб мы ўзялі 100 чы 200 голае як бубен зямлі і каб яе з усіх бакоў шчыльна накрылі сцеклом так, каб праз яго ні дастаўсе ні чалавек, ні птушка, ні звер, то што там нарадзіцца само сабою?" А гэты румынец мне кажэ: „через 60 лет появится там заец, через сто лет — волк, а через тысячу лет появится человек".

Ну то ты мне скажы, чы гэто ні глупство? То ж ведомо, што ніякі заец і ніякі воўк, а тым больш чалавек там ні паявіўся б. Я ні веру, што чалавек быў злеплены Богом з гліны, а яго жонка з рабра. Ї ні веру, што чалавек падобны да Бога. Але думаю, што была на свеці і ест якаясь вяліка сіла, катора прычынілася да таго, што паявіліся і насякомыя, і птушкі, і зверы, і людзі. А якая гэто сіла, то ніхто з нас ні знае. От гэту сілу і трэбо называці Богом.

Ну, але калі людзі верат, што Бог выглядае так як чалавек, то ніхай сабе верат. Гэта вера ім памагае, а тым хто ні верыт ні ў чым ні шкодзіт. Ї таму толькі дурныя людзі, так як той румынец, крычат, што Бога німа. Зрэштаю, гэтаго „долой Бога", „долой церкви", „долой иконы", „долой духовников", я наслухаўся ў часе бальшавіцкае рэвалюцыі. Усе гэто дурнота і больш нічого."

**Алесь Барскі**

# Кароткая характарыстыка дванаццаці Малых Прарокаў

14 снежня (1.12. па старому стылю) Царква ўспамінае аднаго з г.зв. малых прарокаў — Навума. Усіх малых прарокаў ёсць 12. Вось кароткае апісанне іхніх прароцтваў:

1. **Осія** (памяць ушаноўваецца 30.10/ 17.10 па ст. стылю). Першы з малых прарокаў. Прадказаў ён незаконныя паводзіны жыхароў Іудзейскага і Ізраільскага Царстваў, Боскае пакаранне за іх грэшнае жыццё і іх раскаянне, а таксама спыненне старазапаветных ахвярапрынашэнняў і канец святарства з роду Аарана. Адно з прароцтваў прадвяшчала вяртанне Юнака — Хрыста з Егіпта. Памёр Осія каля 820 г. да нараджэння Хрыста.

2. **Іаіль** (1.11/19.10). Вяшчаў каля 800 г. д.н. Хрыста і прадказаў разбурэнне Іерусаліма, сашэсце Святога Духа на людзей і Страшны Суд.

3. **Амос** (28/15.06). Папракаў багацеяў у раскошы, распусце, несправядлівых судах, здзеках над беднымі і продажы іх у няволю. Прарочыў ён развод ізраільцян сярод іншых народаў, адбудову дому Давіда і вяртанне народаў да сапраўднага Бога.

4. **Аўдзій** (2.12/19.11). Быў ён вучнем прарока Ільі. Прадказаў гібель ідумеян за тое, што цешыліся з няшчасцяў, якія спасцігл Іерусалім.

5. **Іона** (5.10/22.09). Згодна з Божай воляй (пасля папярэдняй спробы ўцячы ад свайго лёсу) быў накіраваны ў Ніневію — сталіцу Асірыі і пасля яго павучэнняў і прароцтваў жыхары пакаяліся і Бог зміламваўся над імі. Трохдзённае прабыванне Іоны ўнутры велічэзнай рыбы было прваобразам трохдзённага прабывання Хрыста ў магіле пасля смерці на Крыжы.

6. **Міхей** (27/14.08). Прадказаў падзенне Ізраільскага Царства, вавілонскую няволю і вяртанне з ёй, а таксама нараджэнне Хрыста ў Віфлееме.

7. **Навум** (14/1.12). Жыў каля 700 г. д.н. Хрыста. Прадказаў канчаткова падзенне Ніневіі. Прарок Іона адхіліў яе лёс на 200 гадоў.

8. **Авакум** (15/2.12). Яго прароцтвы прадвяшчалі падзенне Іудзейскага Царства і разбурэнне Іерусаліма халдзеямі. Прадказаў ён таксама падзенне Вавілона і прыход на зямлю Збавіцеля. Памёр каля 600 г. д.н. Хрыста.

9. **Сафоній** (16/3.12). Прадказаў падзенне Іудзейскага Царства і яго суседзяў, а таксама гібель ворагаў народа Божага і прыход Збавіцеля. Прарочыў у 625—605 гадах д.н. Хрыста.

10. **Агей** (29/16.12). Каля 500 г. д.н. Хрыста. Вяшчаў неабходнасць адбудовы Іерусалімскага храма пасля вяртання з вавілонскай няволі і прадказваў, што з'явіцца ў ім Месія.

11. **Захарыя** (21/8.02). памёр у 520 г. д.н. Хрыста. Ягоныя прароцтвы змяшчалі найбольш (з ліку 12 прарокаў) дэталяў, датычных апошніх момантаў жыцця Хрыста на зямлі. Прадказаў адраджэнне Іерусаліма, уезд у гэты горад на асліцы і асле Хрыста, продаж Хрыста за 30 сярэбранікаў, аб праколе боку, аб разбегу Апосталаў пасля захопу Хрыста ў Гефсіманскім садзе, а таксама аб зацьменні Сонца ў час распяцця.

12. **Малахія** (16/3.01). Прарочыў каля 400 г. д.н. Хрыста. Ён апошні з прарокаў і таму называюць яго „пячацццю прарокаў". Прадказаў прыход Хрыста і Яго Прадцечы (Св. Іаана Хрысціцеля), а таксама прарочыў аб Страшным Судзе.

**С.Н.**

# БЕЛАРУСКАЕ ШКОЛЬНІЦТВА

**(водгук на заклік А. Латышонка)**

З прыемнасцю сустрэла я запрашэнне прыняць удзел у канферэнцыі „Беларускае школьніцтва на Беласточчыне". Цешыць факт, што арганізатарамі выступіла беларуская інтэлігенцыя з Беларускага гістарычнага таварыства, якая, здаецца, усвядоміла сабе значэнне школы ў выхаванні нацыі. Калі глядзець з перспектывы часу, аказваецца, што школы, у якіх навучалася беларуская мова, не выконвалі такой ролі. Былі гэта проста польскія школы з „падсвядомымі" — як гэта назваў Васіль Ляшчынскі — не толькі вучнямі і іх бацькамі, але і настаўнікамі. Урэшце наспеў час, каб нешта змяніць.

А вось некалькі маіх заўваг:

Запрашэнне на канферэнцыю магло б быць двухмоўнае, беларуска-польскае (так напрыклад практыкавалася ў міжваеннай Польшчы). Добра было б, каб указвалася ў ім мова канферэнцыі і пісьмовых дакладаў. Крыху была я здзіўлена, калі першыя рэфераты чыталіся на польскай мове, але пачынаючы з выступлення Зінаіды Навіцкай ва ўжытак увайшла і беларуская мова.

15 рэфератаў — гэта зашмат, як на адзін дзень і яшчэ без абмежаванага часу выступленняў. Таму, мабыць, лепш арганізаваць двухдзённую канферэнцыю хаця б таму, каб магчы спакойна абмяняцца думкамі.

Наконт беларускага школьніцтва на Беласточчыне трэба паставіць пытанне, ці яно ўвогуле існуе? Ці нібы беларускае школьніцтва выхоўвае беларускую (свядомую) моладзь? Назіраючы за выступленнямі і дыскусіяй, у мяне склалася ўражанне вялікай „хваравітасці" і закамплексаванасці беларускай мовы. Малое зацікаўленне канферэнцыяй настаўнікаў беларускай мовы аб нечым сведчыць. А гэта ж яны ведаюць фактычны стан беларускасці ў сваіх школах. Прынамсі пра нешта такое гаварыў у дыскусіі Яўген Вапа. Казус настаўніцы, якая ў адзін дзень хоча навучыць дзяцей усяго алфавіту, а на другі — двух вершаў на памяць, напэўна не паспрыяе развіццю беларускага школьніцтва. Год таму назад Ані Іванюк, каб нашых гданьскіх дзетак навучыць беларускага алфавіту, спатрэбіўся дакладна цэлы навучальны год (заняткі вяліся адзін раз у тыдзень). Таму, мабыць, мая дачка добра чытае па-беларуску, а ранейшыя выпускнікі гданьскай нядзельнай школкі назаўсёды застануцца свядомымі беларусамі і ненайгорш будуць валодаць беларускай мовай.

Патрэбны зрух у (беларускім?) школьніцтве на Беласточчыне. А гэта залежыць перад усім ад настаўнікаў, ад іх штодзённай працы і кантактаў з вучнямі, і, урэшце, ад падручнікаў.

Вярнуўшыся з Бельска дадому, зазірнула я ў „Праграмы Беларускае Ніжэйшае Пачатковае Школы", выдадзеныя ў Менску ў 1920 годзе Цэнтральнай Беларускай Школьнай Радай і ва ўступе „Беларуская Нацыянальная Школа" прачытала:

„Уся будучыня Беларускага Народу залежыць у значнай меры ад таго, якую ён мае і будзе мець школу. Благая школа пакіне яго цёмным, несвядомым і безабаронным; благая школа павядзе народ наш да культурнага і фізічнага выміраньня. Добрая школа выратуе народ беларускі, асьвеціць яго шляхі, зьніме з яго аковы няволі і беднаты. Чужая школа (а яшчэ шмат іх у нас ёсьць) зробіць народ наш гноем, на якім будуць расьці атручаныя здрадаю кветкі чужой культуры, свая-ж, нацыянальная школа падыйме яго з цяперашняга заняпаду да роўня ўсіх перадавых культурнейшых народаў сьвету, зробіць яго сьвядомым сваёй нацыянальнай годнасьці, гордым з свайго імя беларускага. (...) Асноваю нацыянальнае школы служыць родная мова — адзнака нацыі, яе духоўны твар. Мова зьбірае ўсё, што мае ў сабе дух нацыі. (...) Эпоха заняпаду мовы ў жыцьці нацыі — гэта эпоха заняпаду ўсяго жыцьця народу, спыненьне працы яго розуму; гэта нацыянальная хвароба, самае горшае няшчасьце, якое можа здарыцца ў цэлага народу. Якое вялікае значэнне мае родная мова, гэта павінен ведаць кожны настаўнік. Той, хто будуе школу з чужою моваю, робіць праступак такі, якому па вялічыні няма роўнага".

Якія ж глыбокія праўды! А колькі можна даць прыкладаў з перспектывы звыш 70-ці гадоў. Канферэнцыя паказала, што існуе праблема. А калі б сарганізаваліся настаўнікі?

**Лена Глагоўская**

# Нашыя ў „Культурнай супольнасці'94"

Агульнапольскі агляд мастацкіх дасягненняў нацыянальных меншасцей „Культурная супольнасць'94", што адбыўся 17—19 лістапада 1994 г. у Варшаве, пацвердзіў добрую кандыцыю беларускай культуры на фоне іншых удзельнікаў мерапрыемства. Гарадоцкі хор пад мастацкім кіраўніцтвам Сцяпана Копы паказаўся як адзін з найлепшых. Дасканаласць апрацоўкі і майстэрства выканання праграмы ўсім калектывам узбагацілі Юрка і Марк Астапчукі, якія спецыялізуюцца ў маладзёжнай аранжыроўцы народных мелодый. Яны і захапілі перад усім маладую публіку.

Горача быў прыняты і эстрадны калектыў „Рэаль", удзельнік некалькіх фестываляў, між іншым, канцэрта народаў у Апалі ў 1994 г.

Пішучы гэтыя словы я не меў яшчэ звестак аб поспехах рок-гурту „Брага" з Беластока, які выступаў 18 лістапада. У той дзень увагу многіх удзельнікаў прыцягнуў беларускі літаратурны вечар з удзелам Надзеі Артымовіч, Яна Чыквіна, Сакрата Яновіча, Тэрэсы Занеўскай і Войцеха Сямёна.

У Доме культуры „Старэ Място" ў Варшаве Тэрэса Занеўска выступіла з дакладам аб сітуацыі беларускай культуры ў Польшчы, якая здолела падняцца вышэй фальклорнага ўзроўню і аб літаратурным аб'яднанні „Белавежа", якое дабілася прафесіяналізму, а яго некалькі сяброў (між іншым прысутныя творцы) сталі членамі Саюза польскіх літаратараў.

Прыняўшы за аснову разважанняў тое, што чалавек без мінулага і памяці не існуе, дакладчыца выказала погляд, што асноўная ідэя літаратурнй творчасці „Белавежы" — гэта змаганне „за тое, што нашае". Абараняючы спосаб мыслення, адчування, аўтары стварылі паняцце малой сваёй айчыны ў канкрэтным разуменні, у адрозненне ад паняцця айчыны вялікай — духовай у іх адчуццях і сімвалічнай.

Характарызуючы творчасць прысутных аўтараў, паэзію Яна Чыквіна ацаніла яна як чыстую, незалежную ад часу і прасторы, рэфлексіўную, як лірыку душы, прамаўляючую з глыбіні метафары. Звышчасовасць падкрэсліла таксама ў паэзіі Надзеі Артымовіч, што характарызуецца тэкстам і кантэкстам, пошукамі чалавека, а стыль яе, кампазіцыя ўзбуджаюць мысленне для зразумення ідэі думкі.

Сакрата Яновіча, бесканкурэнтнага сярод „белавежцаў" празаіка, назвала нацыянальным трыбунам, місіянерам ратавання народнай памяці, што вырас з вясковай тэматыкі і перарос яе. Крэда яго — беларускае слова, якім валодае па-майстэрску, кампануючы розныя жанры сваёй творчасці, надае ёй характар жывога дыялогу ці аўтэнтычнага апавяду і правакуе супярэчлівасцю ў ацэнках крытыкаў.

Ян Чыквін — лідэр „Белавежы", падтрымаў ацэнкі Т. Занеўскай, паінфармаваў аб дасягненнях яго сяброў, якім у літаратурнай творчасці не дараўноўвае ніводная нацыянальная меншасць у Польшчы. Дэкламацыяй некалькіх сваіх вершаў быццам працытаваў „свой гімн жыццю і роднаму заселлю", паказаў сябе як „сына вёскі, брата крыніцы і травы", на душу якога „апала сляза пякучая айчыны".

Надзея Артымовіч — павабная сваёю скромнасцю і спакоем, без слова ўступу прачытала свае вершы, быццам выходзіла „з доўгага маўчання ў спакой", не дбаючы пра мелодыю слоў у паўсюдным разуменню, але з ціхаю упэўненасцю іх сэнсу пераказаным у створанай ёю па-мастацку неардынарнай кампазіцыяй.

Затым Войцех Сямён даў паказ мастацкай інтэрпрэтацыі творчасці гасцей, вядома, у польскім перакладзе. Асаблівы фурор выклікала раскрыццё акцёрам біяграфічнага твора С. Яновіча — фрагмента яго... „Лёсу", дадзенага самім жыццём. Апрануўшы той тэкст у каляровае прывабнае покрыва фарса, В. Сямён ажывіў аўдыторыю, а самога аўтара задзівіў выяўленымі ў творы мастацкімі вартасцямі. Гэта хіба быў кульмінацыйны пункт спаткання, калі не лічыць некалькіх пытанняў пастаўленых Сакрату не толькі на тэму яго творчасці. Быццам чакаючы тых пытанняў, С. Яновіч то паўжартам, то сур'ёзна і пераканаўча як бы даказваў свайму размоўцы перартрыманне і развіццё беларускай свядомасці, мовы і культуры пасля эпохі яе зняволення, пацешыў яго (ці мо засмуціў) прыкладамі і аргументамі не толькі з беларускага панадворка. Незалежна ад поспеху песенных і эстрадных калектываў, беластоцкія літаратары выдатна папрацавалі ў Варшаве ў мінулыя лістападаўскія дні на прэстыж беларускай культуры.

**Янка Жамойцін**

# Што чуваць у варшаўскіх беларусаў

Існуе ці не існуе Варшаўскі аддзел БГКТ пасля пагрому ў студзені 1993 года? Калі падлічыць усе тыя мерапрыемствы, якія ўдалося нам наладзіць для нашых членаў і сімпатыкаў, не маючы ніякага ўласнага памяшкання, то трэба сказаць, што Аддзел, хаця прыдушаны, усё ж яшчэ дыхае. Калі мэтай нападаючых на Беларускі клуб было разагнаць, зглуміць беларускую грамадска-культурную дзейнасць, то гэта ім не ўдалося.

У асветным годзе 1993/94, які ў нас пачаўся з лістапада 1993 г. і працягваўся да апошняга вечара мая 1994 г., адбылося 24 мерапрыемствы, у тым ліку навагодняя сустрэча, якая паводле звычаю называецца навагоднім балем.

У цыкле літаратурных вечароў адбылося 6 сустрэч з прадстаўнікамі літаб'яднання „Белавежа" (А. Барскі, Я. Чыквін, А. Анішэўская, М. Лукша, Д. Шатыловіч). Наведаў нас знакаміты паэт, праф. Алег Лойка з Менска. Некалькі разоў праводзіліся сустрэчы з прадстаўнікамі Пасольства Рэспублікі Беларусь. Госцем нашым быў таксама пасол Рэспублікі Беларусь спадар Уладзімір Сянько, чалавек высокай культуры і шырокіх ведаў.

Не забылі мы і пра нашага беларускага пасла ў Сейме спадара Сяргея Плеву. Прымалі таксама калектыў „Маланка" (на канцэрт прыйшло 90 гледачоў).

Запрашалі мы на сустрэчы прадстаўнікоў праваслаўнага прыхода з варшаўскай Волі. Многа цікавага з гісторыі праваслаўя ў Варшаве расказаў нам а. Анатолій Шыдлоўскі, настаяцель вольскага прыхода.

Сустракаліся мы таксама з дзеячамі польскай культуры. Да цікавейшых вечароў залічыць трэба спатканне з прадстаўніком Міністэрства культуры і мастацтва сп. Паўлам Казанэцкім, які дасканала ведае беларускую мову. Прыкра падумаць, што многія нашыя інтэлігенты ўжо ў першым пакаленні зусім пакідаюць родную мову, саромяцца яе. А вось высокаадукаваны чалавек, дзеяч культуры, сам, без нічыёй прынукі вывучыў мову нашай меншасці, якой шчыра цікавіцца. Цікавай была сустрэча з Чэславам Сэнюхам, перакладчыкам беларускай літаратуры, які не толькі перакладае (між інш. „Новую зямлю" Я. Коласа), але і па мастацку чытае свае творы.

Наладзілі мы сувязь з Фондам Ashram Anavim Ecumenical Monastery OF ART. (За гэтай таемнай назвай скрываецца звычайнае і простае значэнне — „манастыр спакою"). Двое незвычайных людзей, творцаў гэтага фонду: праф. Януш Богуцкі і аніматар культуры, журналістка Ніна Смоляж, дзейнічаюць у карысць паяднання, супрацоўніцтва і свабоднага развіцця кожнай культуры, асабліва на пагранiччы. Мы не толькі слухалі, што яны нам гаварылі, але і пра сваю культуру і абраднасць ім расказалі. На гэтай сустрэчы ўзнікла думка паказаць калядны абрад з Беласточчыны, тут, у Варшаве. Спадарыня Н. Смоляж знайшла спонсараў і два нашы калектывы — з Бельска, пад кіраўніцтвам С. Лукашука, і з Беластока — прыбылі ў Варшаву, каб паказаць нашыя калядныя звычаі. Частавалі яны гледачоў куццёй і іншымі каляднымі стравамі, спявалі ім калядкі (уступ быў вольны).

Цікавіла нас справа, скуль гэта столькі розных гаворак на Беласточчыне? З інфармацыяй на гэтую тэму двойчы выступіла д-р Ніна Баршчэўская.

Адбыліся два спатканні з кіраўніцтвам ГП БГКТ — Я. Сычэўскім і Валянцінай Ласкевіч. Наведаў нас галоўны рэдактар „Нівы" сп. Я. Мірановіч. Даведаліся мы аб умовах, у якіх працуюць нашы журналісты. Далей будзем цікавіцца, як спраўляюцца яны з цяжкасцямі ў гэты нялёгкі час, які прагноз беларускага друку на будучыню (я асабліва цешуся з гэтага спаткання таму, што выпрасіла ў рэдактара, каб на старонках газеты ставілі дату, бо калі раскінецца некалькі нумароў, то надта цяжка было ўкамплектаваць іх). Культурны сезон закрылі мы цікавым вечарам з іканапісцам сп. Міхалам Пячонкам. Спалучана гэта было з невялікай выстаўкай яго творчасці.

Дзе ўсё гэта адбывалася? Няма ж у нас зусім ніякага памяшкання, а даволі багатая нашая маёмасць ляжыць ужо другі год на абы-якім складзе ў фірме „Dipservis". Найчасцей збіраліся мы ў Цэнтры Расійскай навукі і культуры на вуліцы Фоксаль. Там нас прымалі пакуль бясплатна. Разумелі нашу сітуацыю. Некалькі сустрэч па арганізацыйных тэмах адбылося ў Пасольстве РБ.

Адным словам — быў гэта „latający uniwersytet", які ў 80-х гадах вядомы быў у Польшчы (быў тады надта модны). Аналогію аднак правесці нельга. Той „latający" ўспамагала шчодра заграніца. А нас няма каму ўспамагаць. Усё арганізуецца на прыватны тэлефон, на ўмольную просьбу, што не маем чым плаціць і т.д. Найважнейшае, што яшчэ дыхаем і крыху пра нас чуваць.

Пачатак новага сезона хацелася б спалучыць з даўно ўжо планаванай выстаўкай карцін Тамары Тарасевіч у Варшаве, але неяк усё не атрымоўваецца.

Спадзяюся, што ў снежні, усё ж такі адбудзецца яе вернісаж і першая большая сустрэча варшаўскіх беларусаў з гэтай нагоды.

**А. Анішэўская**

*Станіслаў Валодзька*

## Рабы

Нямала будучыні светлай
Будаўнікоў навербаваў.
Ды рэчаіснасць беспрасветнай
Была — шмат душ абрабаваў!

У палон ці змог бы ўзяць Феміду
Партыйны жрэц, прараб рабы,
Узняць такую піраміду —
Без нас, нікчэмныя рабы?!

Якія мы рабілі спробы,
Ці спрабавалі штось рабіць,
Каб лёс загневаны раздорыць —
Душой нябогімі не быць?!

...Пачуўшы плач нябеснай скрыпкі —
Сцяну глухую час прабіў —
Хоць і са скрыгатам і скрыпам,
Рабы, распростваем гарбы!

Аковы ржавых догм рвучы,
Пачуўшы плач свайго сумлення,
Пачуўшы прашчураў маленне,
Нашчадкаў просьбу,
Жывучы,

Не выпрабоўваць Немезіду
Больш праўду ў крыўду не даваць:
Сістэмы жорсткай піраміду
Звярнуўшы —
Храм пабудаваць!

Дзе душы памяццю світаюць,
Дзе радасць дараць проста так...
Разняўшы рукі, нас вітае
Хрыстос распяты, як Спартак!

...Ці прычакаем ладу яблык,
Ці стане свет зноў на дыбы?
Ці аджагнаемся ад д'ябла,
Рабы, ўсе — Божыя рабы?!

## Вецер здалёку

Пад вечар — вецер
Пад вецер — я.
Пад ветру гранне —
Душа мая.

Як з тога лета
Яго цяпло.
Мне вецер гэты
Хвалюе лоб.

Ён дакарае
Разрыў-траву.
Ён з таго краю,
Якім жыву,

Якім світае
Душа мая.

Пад вечар — вецер.
Пад вецер — я.

## БАЛОТНАЯ ЧАРАПАХА

Аднойчы, у Ольштыне, ішоў я на свой агародны палетак і ўбачыў сабаку, які круціўся каля ляжачай нагамі ўверх чарапахі і намагаўся яе ўкусіць. Я ўзяў палку, прагнаў сабаку і падышоў да чарапахі: адна яе лапка была пакусана. Узяў я параненага звярка ў свой агародны домік, прамыў рану і палажыў на падлогу. Гадзіну пазней прыйшоў паглядзець, але чарапахі на пакінутым месцы ўжо не было: яна запоўзла пад ложак у куточак. От бяда мне, — думаю, — чым мне яе карміць? Падвечар забраў яе дадому, а раніцай пазваніў у гурток герпетолагаў і сказаў у чым справа. Старшыня гуртка сам прыехаў да мяне і мы разам завезлі чарапаху да лекара ветэрынарыі, які рану прамыў і забінтаваў. Чарапаху ўзяў пад сваю апеку старшыня гуртка герпетолагаў; членам гэтага гуртка стаў і я.

Чарапаха балотная з'яўляецца адным з найбольш цікавых, а прытым мала вядомых паўзуноў — гэта адзіны від чарапахі, які жыве ў нашай краіне. Сустрэць чарапаху нялёгка: пражывае яна толькі ў некаторых рэгіёнах, да таго звярок гэты вельмі асцярожны. Герпетолагі ацэньваюць, што ў Польшчы пражывае іх толькі 250-350 штук: у раёне Гожава-Велькапольскага, Ольштына і паміж Люблінам і Бярэсцем. Яшчэ на пачатку XX стагоддзя можна яе было сустрэць і на Беласточчыне.

Чарапаха балотная гэта невялікі паўзун: даўжыня панцыра дарослых самцоў даходзіць да 22 см; самічкі крыху меншыя. Галава ў іх вялікая, ногі масіўныя пяціпальцавыя, пальцы закончаныя вострымі кіпцюрамі. Панцыр мае цёмна-карычневы колер; на галаве, шыі і лапах выступаюць жоўтыя пятны. Гон чарапах адбываецца ў красавіку, а ў канцы мая або на пачатку чэрвеня самічка зносіць у пясок ад 9 да 18 яек. Яечкі развіваюцца паволі, каля 100 дзён і толькі ў тэмпературы не меншай чым 18°С. У канцы жніўня і на пачатку верасня з яечак вылупліваюцца маленькія чарапашкі, якія, вылезшы з зямлі, самастойна накіроўваюцца ў напрамку вадаёма. Жывуць чарапахі балотныя доўга: да 120 гадоў.

З увагі на цвёрды панцыр маюць яны нямнога ворагаў; пад найбольшай пагрозай знаходзяцца смачныя яечкі і паўзучыя да вады малюткі, якіх ахвотна выядаюць розныя драпежнікі: лісы, яноты а нават вароны. Галоўным аднак ворагам чарапах з'яўляецца чалавек, які знішчае іх прыроднае асяроддзе.

**Андрэй Гаўрылюк**

<u>З былога</u>

## ДЗВЕ КУМЫ

Усе старэйшыя чытачы „Нівы" памятаюць, што некалькі дзесяткаў гадоў таму ўсе сялянскія працы выконваліся ўручную, асабліва жаночыя.

У адным сяле жылі па-суседску дзве кумы. Адна была працавітая, гаспадарлівая, а другая — лянівая. Аднойчы прыйшла першая да другое і просіць:

— Хадзіце, кумачко, да мяне на поле пшаніцу палоці, то зімою дам вам мукі.

— Ой, кумо! — уздыхнула суседка. — Не пайду я вам пшаніцу палоці, бо будзе асот у рукі калоці.

Нічога на гэта суседка не сказала. Пайшла дадому. Адна выпалола сваю пшаніцу.

Наблізіліся Каляды. Прыйшла лянівая кума папрасіць мукі:

— У вас такая была пшанічкая харошая. Дайце, кумачко, крышку мукі...

— Ой, не дам табе, кумачко, мукі, бо як да мукі — то асот да рукі...

Калісьці людзі не трымалі малака ў спецыяльных банках, а ў гліняных гладышах. З малака збіралі вяршоксмятанку і адкладвалі ў іншы гладыш. Калі смятаны было шмат, білі з яе ў бойцы масла.

Працавітая кума не давала сямейнікам есці вяршкоў, біла масла. А лянівая суседка не шкадавала ласавацца дзецям смятанай, а ленавалася нават рабіць сыр з кіслага малака. Прыйшла аднойчы да гаспадарлівай суседкі і кажа:

— Ой, кумачко, як добра ў вас, і на масла малака ў вас хапае, і на сыр...

— А ці кепска ў вас, што і вяршкі, і кіслае малако ў вас адразу з'ядаюць? Не трэба вам масла біць і з сырам валаводзіцца!

**Аўрора**

## З гараскопа друідаў

*(заканчэнне)*

**АЛІВА,** *(23 верасня).* Гэтае дрэва любіць сонца. Мяркуюць, што акультурылі аліўкавае дрэва жыхары Міжземнамор'я. Вядома, што здаўна аліўкавая галінка была сімвалам міру. Дрэва дажывае да 2000 гадоў. Налічвае больш за 500 сартоў алівы.

Людзі, народжаныя 23 верасня, чымсьці падобныя на дрэўца: не вызначаюцца ростам, прыгажосцю, але не пазбаўлены прывабнасці. Як і алівы, вельмі любяць сонца, без яго мучаюцца рэўматызмам. Характар іх спакойны, яны маюць прыроджанае пачуццё развагі, не любяць ускладняць сабе жыццё. Аліва ўмее быць талерантнай, хоць і мае ўласную канцэпцыю жыцця, можа нават здацца, што яна абыякавая да спраў іншых людзей. Але гэта не так, бо калі звярнуцца да яе за дапамогай, аліва ахвотна зробіць усё магчымае. Яна пастараецца зразумець стан кожнага чалавека, а гэта звычайна вельмі цэняць. У каханні аліва прагне пазбавіцца зайздрасці, стараецца даць волю дарагому чалавеку, хаця сама ўпотай мучыцца ад гэтага. Імкнучыся да спакою, аліва можа пайсці нават на вялікія ўступкі, а таму належыць да людзей, якія прыносяць іншым шчасце і спакой і пакідаюць пасля сябе добрую памяць. А яшчэ такія людзі адзначаюцца інтэлігентнасцю, любяць падумаць, шмат чытаюць і шмат чым цікавяцца, прыцягваюць увагу, становяцца славутымі.

## ВІРАВАНКА




1. горад над Шчарай, 2. крайняя дошка, 3. прызыў, запрашэнне, 4. адходы ад абмалоту, 5. нормы паводзін людзей, 6. месца пахавання, 7. збудаванне для сена, 8. парабак, 9. дубінка з патаўшчэннем, 10. сталіца Замбіі, 11. напр. скульптар, 12. штат на поўначы Індыі. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 43 н-ра:**

**Гарызантальна:** малако, Афрыка, капрон, віка, трон, камбінезон, лава, Акра, веялка, Тамара, манера.

**Вертыкальна:** Малаві, кока, Афон, кантон, правінцыял, какава, тронак, лапата, рапіра, Вера, Кама.

**Кніжныя ўзнагароды высылаем Галене Тапалянскай** з Трасцянкі і **Мікалаю Сазановічу** з Навінаў-Вялікіх.

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне!

Я жыву на Беларусі, у Віцебскай вобласці — мясцовасць Казімірава. Атрымліваю і чытаю „Ніву". Вось мая просьба. Нядаўна прысніўся мне такі сон. Быццам бы мой памершы бацька ды брат, які жыве ў Польшчы, былі ў мяне ў хаце і дапамагалі развешваць дываны. І стол таксама быў засланы быццам шаўковым цёмна-вішнёвым дыванам. У мяне таксама быў нейкі дыван, падыходзячы да свята Сёмухі. Вось, падумала я, Сёмуха, а я забыла наламаць галінак майскай бярозкі, якую паставіла перад хатай. Але ж Сёмуха ў нядзелю, адламаю вялікую галіну — як на пажар. Пасля я вельмі перапужалася, што гэтак падумала, і прачнулася.

Я так знервавалася гэтым сном, што нават не змагла Богу маліцца. Няўжо мяне напаткае нейкае гора, бяда? Што ты аб гэтым думаеш, Астроне?

**Антаніна**

Антаніна! Няма патрэбы хвалявацца. Магла цябе перапужаць тая думка, што адламаеш вялікую, як на пажар, галіну. А бярозку ж ты паставіла перад хатай, каб яе ўпрыгожыць на Сёмуху, праўда? Ты нават ад адной такой думкі перапужалася, значыць, у душы ты — добры чалавек і з гэтай прычыны нічога кепскага табе не пагражае. Больш таго, дываны, якія табе сніліся — і на сцяне, і на стале, і яшчэ адзін, які мела ты да свята Сёмухі, — абазначаюць адпачынак, спакой і прыбытак. Жадаю табе, каб усё гэта споўнілася, а ад „Нівы" — прывітанне.

**АСТРОН**

## Легенды нашай зямлі

* * *

У XVIII стагоддзі кальвінісцкі збор у **Орлі** быў цяжка праследаваны. Падчас вядомага шведскага „патопу" ў 1655—1657 гадах мястэчка моцна пацярпела, прычым паслядоўнікі кальвінісцкага касцёла разам з тадышнім гарадскім старастам Пшынскім, як прыхільнікі Радзівілаў, загінулі ў барацьбе, а тыя, хто выратаваўся, былі прымушаны прыняць каталіцызм. І калі ў 1725 годзе ў зборы павесілі новы звон, зноў пачалося. Луцкі епіскап Рупнеўскі загадаў учыніць набег і забраць яго.

У 1704 годзе пры арлянскім зборы не было ўжо пастаяннага пастара і толькі часамі прыязджаў адпраўляць набажэнства падляшскі абат. Яшчэ ў 1732 годзе збор у Орлі быў ва ўладанні кальвіністаў, але дваццаць год пазней ужо не.

Захавалася легенда, згодна з якой мясцовы збор у незвычайны спосаб купілі мясцовыя яўрэі. Жонка Радзівіла згадзілася прадаць яго за два з паловай корцаў грошай пры ўмове, што ўся сума будзе дастаўлена ёй на працягу аднной ночы і толькі самымі аднаграшовымі манетамі. Лічачы грошы, Радзівіліха аслепла.

Фактам ёсць, што будынак збору набылі яўрэі і перамянілі на сінагогу. Яна стаіць па сённяшні дзень.

* * *

Даўным-даўно Драгічын меў замак. Перш спалілі яго літоўцы. Калі быў ужо адбудаваны, спалілі яго шведы. Асталася толькі Замкавая гара, якая з'яўляецца археалагічным помнікам старадаўнасці. Зараз гэта ледзь трэцяя частка даўняй гары. Лёгка можна заўважыць сляды колішняга абарончага рова вакол таго ж замка, які стаяў тут раней.

Паводле легенды, у нетрах гары спачываюць астанкі апошняга яцвяжскага князя Кумата, які загінуў у баі пад Бранскам у XIII стагоддзі. У замку часта затрымліваліся і гасцявалі некаторы час польскія каралі або намеснікі.

Быў у Драгічыне шляхецкі двор XVIII стагоддзя, які памятаў напалеонаўскія часы, але ў 1942 годзе яго разабралі.

Апрацаваў
**Янка Целушэцкі**




**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1995 r. upływa 20 lutego 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 65 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 10 000 zł., a kwartalnie - 130 000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

 




### Пад старасць навучыўся...

Сядзіць на ганку дзед Мікіта,
Не разгінаючы плячэй:
Шчыруе зранку самавіта,
Гарбее, лапці ён пляце.

Сусед зайшоў, сусед здзівіўся,
Вясёлы позірк пасумнеў:
— Калі ты плесці навучыўся?
Ты ж, добра помню я, не ўмеў?

Мікіта, пыхнуўшы цыгаркай,
Аборы ў лапаць прылаўчыў:
— Парламенту, суседзе, дзякуй —
Пад старасць, бачыш, навучыў...

Няспынна дэпутаты дбаюць
Пра нас з табой, пра ўвесь народ:
Людзей у лапці абуваюць
Які ўжо дзень, які ўжо год.

Насіў бы з радасцю вялікай,
Каб кожны з іх трывала плёў.
Пляту старанна лапці з лыка,
Яны ж, разумнікі, са слоў.

**Мікола Чарняўскі**

## СЕНТЭНЦЫІ

Вяршыню гары здабудзеш,
вяршыню ведаў — ніколі.

* * *

Прачытай кнігу —
і знойдзеш згубленае слова.

* * *

Афіша і пеўня прымусіць
цёхкаць салаўём.

* * *

На слупе і варона прыкметная.

* * *

Толькі маці носіць у сабе
ўсе дні дзіцяці.

**БАРЫС РУСКО**




Малюнак П. Козіча

## СМЕХ У САНАТОРЫІ

Падчас гасціны ў Кавальскіх адна госця распытвае васьмігадовую дачку гаспадароў:

— Ты ўжо вялікая і пэўна памагала маме прыгатаваць такую прыгожую гасціну.

— Не, буду памагаць пасля прыёму.

— А што будзеш рабіць?

— Пералічу ўвесь настольны гарнітур, каб мамачка ведала, што госці зноў укралі.

* * *

— Мамачка! мамачка! Не здала я экзамена на атэстат сталасці. Ідзі ў пакой і прыгатуй на гэта татку.

Праз хвілінку маці вяртаецца і гаворыць:

— Бацька ўжо прыгатаваны; цяпер рыхтуйся ты.

* * *

У школе настаўніца прыказала вучням, каб спыталі бацькоў, адкуль бяруцца дзеці. Казіку бацька сказаў: „Выстругаў я цябе з бульбы". На другі дзень Казік, ідучы ў школу, прыхапіў у сумку адну бульбу. На ўроку вучні адказваюць, чаго даведаліся дома:

— Дзяцей прыносяць буслы.

— Дзяцей знаходзяць у капусце.

— Дзеці родзяцца ў бальніцы.

Калі чарга дайшла да Казіка, той пытаецца:

— Ці можна выняць і паказаць?

* * *

Пані Кавальская перад ад'ездам у курорт папрасіла сынка, каб пільнаваў бацьку і пасля прыезду расказаў, што той рабіў. Калі маці вярнулася, сын дакладвае:

— Аднойчы вечарам прывёў бацька жанчыну. Спачатку пілі віно, а пасля пайшлі спаць і бацька рабіў з ёю тое самае, што калісь наш сусед з табою, калі татка быў у адпачынку.

* * *

— Татка, ведаю вельмі добры анекдот!

— Дык раскажы.

— Не магу, я яшчэ замалады.

**Даслаў
Андрэй Гаўрылюк**




**Мал. А. Папова**

*Аляксандр Пярлюк*

## ЖЫВЫ ТРУП

— Цур мяне, цур! Пётр Іванавіч, што за чартоўшчына, ці ты гэта?

— Цішэй, не крычы так, я не глухі!

— Адкуль ты ўзяўся? Я ж асабіста быў на могілках, сваімі вачыма бачыў, як труну з тваім целам апускалі ў яму, а пасля засыпалі зямлёй. І на памінках быў, піў „Пшанічную" і „Рускую" — і на дзевяць дзён піў, і на сорак дзён... А можа ўсё мне гэта сніцца або я ўжо з глузду з'ехаў?

— Не хвалюйся, ты не звар'яцеў, я табе зараз усё растлумачу: тады на могілках хавалі не мяне, а мой палітычны труп. Зразумеў?

— Не.

— Добра, вось адкажы, кім я быў раней?

— Кім?

— Я быў камуністам.

— Ну?

— А зараз я ўжо дэмакрат, кумекаеш?

— А, а, а, а, значыць ты жывы?

— А як жа! Я здаровы, як і раней радуюся жыццю, езджу ў замежныя камандзіроўкі, нядаўна абараніў доктарскую дысертацыю.

— Вось дык штука, ніколі б не падумаў, што такое бывае!

— Бывае і не такое! Дык вось што. Рана вы мяне пахавалі, я яшчэ не ўсе свае сілы, веды і вопыт аддаў справе пабудовы развітага рынку.

— Малайчына!

— Ды хопіць табе, не пра сябе думаю, пра свой народ.

## ПАСПЯШАЛІСЯ

— Таварышы, што вы робіце?

— Хаваем.

— Каго?

— Вас.

— Але ж я жывы!

— Нічога не ведаем.

— Людзі, панове, таварышы, спадары, браткі, не трэба, адумайцеся, спыніцеся!

— Цішэй, грамадзянін! Вы нам перашкаджаеце. У нас жа ёсць пасведчанне аб смерці.

— Але ж вось я, вось мае рукі, вось ногі, вось мая галава. Бачыце, я стаю перад вамі, я жывы!

— А вось пасведчанне аб смерці. Бачыце, тут чорным па беламу напісана, што вы памерлі. Вось і пячатка, вось і подпісы.

— Але ж я жывы!

— Нічога не ведаем, запытайце! Хаця не, пачакайце... На дапамогу! Дапамажыце! Выклічце „хуткую". Ды хутчэй! Здаецца, ён ужо і на самай справе памёр.

**Пераклаў з рускай
Валеры Бабей**




Табе, Сэрцайка, здаецца, што ў жыцці ўсё проста. Разышліся, значыцца, ён вінаваты. А я магу адчуваць сябе пакрыўджаным, бо маёй віны тут ніякай не было.

Гадоў праз пяць нашага супольнага жыцця паявілася нейкая адчужанасць, незразуменне. Мне не падабалася, што жонка часамі бывала вульгарная, агрэсіўная, не цікавілася нічым, апрача хаты. Не мог я яе зацягнуць на ніякі канцэрт, у тэатр. Пры мне не прачытала ніводнай кніжкі, хаця не раз падсоўвў я ёй сусветныя разынкі. Але найгоршае было тое, што ўсе сваркі, якія ўзнікалі між намі, жонка ўмомант пераносіла на службовы грунт. Бывала, не паспеў я прыйсці на работу (а працавалі мы разам), як сяброўкі паведамлялі мне, што ўсё ім вядома. Пытаюся, што вядома. Аказвалася, што ведалі кожнае слова, якім мы перамовіліся, ведалі, як праходзіла сварка, прабач, ведалі як мы пераспаліся апошняй ноччу.

Дальбог, Сэрцайка, не было ў мяне іншай кабеты! Але я любіў чытаць, дыскутаваць аб прачытаным, любіў паглядзець добры фільм, а жонка лічыла ўсё гэта пустой стратай часу. Не скажу, што пры ўсім гэтым я мала часу прысвячаў сваім дзецям. Мелі мы і сына, і дачушку, і я што ўмеў, у тым дапамагаў.

Развяліся мы пасля дзесяці гадоў супольнага жыцця. Трэба прызнаць, што на судзе якраз жонка паводзіла сябе годна, не аблівала мяне памыямі. Суд так і запісаў: не сышліся характарамі. Думаў я, што і далей усё пойдзе гладка. Я пачаў жыць асобна. Хацеў, аднак, бываць у дзяцей, памагаць ім, выхоўваць іх. Мая жонка, аднак, была іншай думкі. Раптам адвярнулася ад мяне плячыма. Забараніла дзецям адчыняць мне дзверы. Я чуў не раз, як плакалі яны за дзвярыма, просячы маці, каб упусціла мяне. Каб убачыцца з імі, я гадзінамі прастойваў пад школай, чакаючы, пакуль хаця адно з іх скончыць заняткі. Як я іх любіў! Але нават гэтае каханне не прымусіла мяне застацца з іх маці. Уяві сабе, да якой ступені яна мне абрыдла.

Маё жыццё без дзяцей стала бедным і ніякім, і я пастараўся выехаць у іншы горад. Знайшоў добрую працу па сваёй прафесіі і ўвайшоў у новае жыццё. Быў надалей адзін і толькі праз пяць гадоў сышоўся з цудоўнай жанчынай, якая да сённяшняга з'яўляецца маёй жонкай. Ёсць у нас дачушка, а нават, мушу пахваліцца, і ўнукі. Цешымся імі, дапамагаем, жывем іхнімі справамі.

Адна толькі думка не дае мне спакою. Ужо дваццаць гадоў таму назад я вярнуўся ў свой родны горад. Без яго, без сям'і я не мог жыць. Нягледзячы на тое, меркаваў я, што прыехаў я з новай сям'ёю, першая жонка дазволіць мне сустракацца з дзецьмі. Куды там! Цяпер яна нават не хацела ні слова сказаць пра іх. Я не ведаў, ці жанатыя яны, ці маюць дзяцей. Ведаў толькі, што паканчалі вышэйшыя школы. Жонка не дапускала мяне да іх нават тады, калі я быў далёка і пасылаў дзецям на імяніны ці на Новы год падарункі. Мае пасылкі вярталіся неадкрытыя назад. Як я мог аказаць крыху сэрца гэтым пакутнікам?!

І гэты боль душыць мяне. Не хочацца хадзіць па людзях ды распытваць. Дзеці мяне таксама не шукаюць. Нашы адносіны чыста фармальныя. Відаць, жонка дасягнула сваёй мэты. Я для іх стаў чужым чалавекам. А калісьці ж мне здавалася, што ўсё можа абысціся, што можна быць асобна, але побач і разысціся культурна. Жонка мая ніколі не выйшла замуж, адна выхавала дзяцей. Як ты думаеш, ці варта наблізіцца да іх, сёння дарослых людзей?

**Андрэй**

Андрэй! Думаю, што ўсе ўчынкі тваёй жонкі — па дурасці і... з кахання. Яна думала прычыніць табе боль, адсоўваючы цябе ад дзяцей, а фактычна забрала ў іх бацьку, зрабіла іх душы бяднейшымі. Падаруй ім хоць цяпер крыху цяпла, зацікаўся ўнукамі, пагавары з імі часам як бацька, а не чужы чалавек. Яны ж цябе не памятаюць, а твая жонка прадставіла цябе, бадай, зверам. Зразумей, ім жа так не хапала ўсё жыццё бацькоўскага сэрца.

**Сэрцайка**

 